PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 21 (1880) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 24 МАЯ 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



*БЕЛЬСКІЯ МАТУРЫСТЫ ПАСЛЯ ПІСЬМОВАГА ЭКЗАМЕНА ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ( пра матуры чытайце на 7 старонцы).*

## СЁННЯШНЯЯ БЕЛАРУСЬ

— гэта тэма гутаркі, праведзенай 15 красавіка г.г. Аляксандрам Баршчэўскім у Польска-беларускім клубе ў Варшаве. У выступленні разгледаў ён праблему незалежнасці Беларусі ў гістарычным і сучасным аспекце, паддаў шырокаму аналізу моўны фактар і залежнасць яго ад рэлігійных, палітычных і эканамічных уплываў, ацаніў эканамічную сітуацыю краіны, залежнасць яе ад Расеі і сувязі з Польшчай.

Аб'яўленая ў жніўні 1991 г. незалежнасць Беларусі, гаварыў дакладчык, не з'яўляецца выключным вынікам барацьбы народа. Апрача намаганняў адраджэнскага руху, сам факт незалежнасці быў эфектам распаду Савецкага Саюза. Калі не ўлічваць значэнне беларускага чынніка ў Вялікім княстве Літоўскім і кароткай гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі, створанай Актам 25-га сакавіка 1918 г., Беларусь фактычна ніколі не была суверэннай дзяржавай. БНР была прызнана толькі Украінай і Фінляндыяй. Ленінскія бальшавікі і Польшча Пілсудскага не прызналі яе як дзяржаву і давялі да яе ўпадку. Рыжскі мірны дагавор без удзелу беларусаў даканаў Беларусь, падзяліўшы яе на часткі.

У частцы, прызнанай Савецкаму Саюзу — у БССР — пачаткова былі сякія-такія рэспубліканскія прызнакі, а галоўным чынам адрадзілася і развівалася беларуская мова, якая стала мовай дзяржаўнай. Веданне мовы вымагалася ад чыноўнікаў і іншых афіцыйных асоб, стваралася беларуская асвета, выкаранялася з публічнага жыцця расейшчына. У гэты перыяд, ад 1922 да 1929 г., мова фактычна адрадзілася поўнасцю і сфармавалася літаратура ды наогул беларуская культура. Беларуская мова была прысутнай і ў некаторых асветных установах, напрыклад, у настаўніцкіх семінарыях, у Заходняй Беларусі, прылучанай да польскай дзяржавы.

Працэс русіфікацыі, калі не сказаць нішчэння беларускай мовы і культуры, на Беларусі пачаўся ў 1930 г. і праводзіўся да нядаўна. Фактычна прывёў ён да поўнага заняпаду мовы ў карысць расейскай. Працэс гэты паглыбіла масавая міграцыя людзей з вёсак, якія былі бастыёнамі роднае мовы і народнай культуры. Нават у такіх установах, як Міністэрства культуры, Акадэмія навук ці Беларускі дзяржаўны універсітэт, да сённяшняга дня пануе расейшчына, а ў Менску на 200 школ да нядаўна ўсе былі расейскія.

Не малую ролю ў дэнацыяналізацыі беларусаў адыгрывае праваслаўная царква як русіфікатарскі чыннік і каталіцкі касцёл — як фактар паланізацыі каталікоў. Як не дзіўна, але ў каталіцкіх асяроддзях беларусаў, якія не ведаюць польскай мовы, ксяндзы паслугоўваюцца ў казаннях расейскай мовай, а не беларускай, напрыклад, у Нясвіжы.

Змаганне за адраджэнне беларускай мовы вядзе маладая інтэлігенцыя, што гуртуецца вакол дэмакратычнай апазіцыі. Вынікі гэтай барацьбы становяцца штораз больш відочнымі, напрыклад, у школьніцтве, дзе на 200 школ у сталіцы Беларусі ўжо больш чым 20 пераўтварыліся ў беларускія, а ў шматлікіх дзіцячых садзіках заняткі вядуцца на роднай мове. Значную ролю ў гэтай галіне адыгрывае Беларускі народны фронт, які, аднак, напатыкае на немалыя цяжкасці. Спробы БНФ прапагандаваць уніяцтва з беларускай мовай замест зрусіфікаванага праваслаўя не ўдаліся, а моцная ўсё яшчэ бальшавіцкая прапаганда абвінавачвае перад народам дэмакратычную апазіцыю за цяжкасці эканамічнага жыцця краіны, хоць уладу ўсё яшчэ трымае старая наменклатура.

Далей дакладчык звярнуў увагу на эканамічную залежнасць Беларусі ад Расеі, асабліва ў пастаўках сыравіны, неабходнай для беларускай прамысловасці. Як спроба абароны перад залежнасцю ад Расеі разважалася апазіцыяй канцэпцыя стварыць балтыйска-чарнаморскае аб'яднанне з удзелам Прыбалтыкі, Беларусі і Украіны, што аказалася нерэальным, перад усім з прычыны адмоўнага стаўлення прыбалтыйскіх дзяржаў, якія арыентуюцца на Скандынавію і Нямеччыну.

У такіх абставінах Беларусь шукае дарогу ў Еўропу цераз Польшчу, што з'яўляецца адначасна шанцам доступу да Балтыйскага мора.

Старшыня Польска-беларускага клуба, сенатар Тадэуш Клапатоўскі ў дыскусіі выказаў думку, што ў абліччы дэмакратычнай сітуацыі беларускай мовы, магчыма, варта было б разважыць варыянт двухмоўнасці на Беларусі, з адначасным націскам на адраджэнне

*Працяг на стар. 6*

## СПАТКАННЕ З ПРЭМ'ЕР -МІНІСТРАМ

У чацвер 23 красавіка г.г. у Варшаве адбылася сустрэча прэм'ер-міністра беларускага ўрада Вячаслава Кебіча і суправаджаючых яго асоб (у тым ліку міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі) з прадстаўнікамі беларускага грамадства ў Польшчы.

Прэм'ер-міністр В. Кебіч прыняў беластоцкіх і варшаўскіх беларусаў у сваёй варшаўскай рэзідэнцыі пры вуліцы Парковай. Ужо едучы на сустрэчу, мы адчувалі душэўную асалоду, гледзячы на незлічоныя беларускія сцягі, што ўпрыгожвалі трасу ад аэрадрома да рэзідэнцыі. Яшчэ летась было такое, што ў Менску сарвалі адзіны бел-чырвона-белы сцяг, вывешаны на 25 Сакавіка, а сёлета прыязджаюць пад ім прадстаўнікі ўрада. Пэўна, пераварочваюцца ў трунах санацыйныя ліквідатары беларушчыны, законныя пераймальнікі якіх вітаюць цяпер беларускі сцяг з усімі гонарамі.

Сама сустрэча прайшла, мауляў, у атмасферы поўнага зразумення. З праблемамі беларусаў у Польшчы пазнаёмілі прэм'ера старшыня БГКТ А. Баршчэўскі і пасол Я. Чыквін. Балячкі нашы вядомыя, дык не буду пра іх распісвацца. Вядома таксама, што магчымасці Беларусі дапамагаць нам пакуль што невялікія і мусім яшчэ цярпліва пачакаць. Аднак, прэм'ер В. Кебіч забавязаўся хадайнічаць, у меру магчымасцяў, за справамі беларусаў у Польшчы.

Пры нагодзе сустрэчы высветлілася, што прэм'ер-міністр урада РБ, насуперак чуткам, з беларускай мовай ніякіх цяжкасцяў не мае, бо яна яму родная, ды і школу закончыў беларускую. Карыстанне расейскай мовай у афіцыйных выступленнях вынікае, відаць, з прыроджанага беларусам пачуцця прыніжанасці, ад якога як тут, так і там паволі вызваляемся. Усё-такі больш прыемна быць сабою і прэм'ер Кебіч, як гаспадар сустрэчы быў гэтага відочным доказам. У часе менш афіцыйнай часткі спаткання стварыў ён атмасферу сапраўднай свойскасці.

Застаецца чакаць рэзультатаў візіту беларускай дэлегацыі ў Варшаве — падпісання польска-беларускага дагавора, абмену пасламі, развіцця гаспадарчага і культурнага супрацоўніцтва, усяго таго, што стварае нармальныя суседскія адносіны паміж дзяржавамі.

Беларусы Беласточчыны чакаюць таксама візіту прэм'ер-міністра Беларусі ў Беластоку і наваколлі, на што спадар В. Кебіч выказаў ахвоту і спадзяванне.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**




## РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ
## ЧАСТКА XVI

Сказаў я, што як каталіцкі касцёл, так і праваслаўная царква на Беларусі павінны асудзіць тых сваіх айцоў, якія адарвалі каталіцызм і праваслаўе ад беларускай духоўнасці, мовы і свядомасці. Зразумела, не мусім асуджаць усіх, бо не ўсе з іх паланізавалі і русіфікавалі беларусаў. Наадварот, многія з іх вельмі паслядоўна працавалі на беларускай нацыянальнай глебе. Прыкладамі могуць быць ксяндзы міжваеннага і ваеннага перыяду: Стэповіч (Казімір Сваяк), Германовіч, Татарыновіч, Гадлеўскі і іншыя. Гэта іх польскі епіскапат дыскрымінаваў і праследаваў, пераносячы з месца на месца, а ў канцы выслаў некаторых у далёкі Кітай, пазбаўляючы такім чынам магчымасці кантакту з беларусамі. А Гадлеўскі памёр пакутніцкай смерцю з рук гітлераўцаў. Ці ж не яны з'яўляюцца дасканалымі кандыдатамі ў святыя каталіцкага касцёла на Беларусі?

На жаль, не магу прывесці падобных прыкладаў з плеяды праваслаўных святароў. Аднак, гэта не абазначае, што іх не было. Перакладаючы на беларускую мову дакумент польскага генеральнага штаба п.з. „Krótki Zarys Zagadnienia Białoruskiego", сутыкаюся час ад часу з інфармацыямі аб постацях праваслаўных духоўных, якія прымалі ўдзел у беларускім руху. Думаю, што дасканалы знаўца гісторыі праваслаўя на Беларусі скарбніцу беларускай духоўнасці.

Беларускія скульптары і жывапісцы часта сёння звяртаюцца ў сваёй творчасці да постацяў такіх святых беларускай зямлі, як Ефрасіння Полацкая, Клімент Смаляціч, Кірыла Тураўскі. Здаецца мне, што прыйшоў ужо час рэзбіць і маляваць і тых заслужаных для беларускай духоўнасці святароў, якія жылі ў канцы XIX ці ў першай палавіне XX стагоддзя.

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Антон Міранові́ч змог бы прывесці прозвішчы праваслаўных святароў, якія былі носьбітамі беларускай свядомасці. Дык і праваслаўная царква, мабыць, мае каго ўводзіць у сан святых.

Наколькі арыентуюся ў сітуацыі, не будуць мець з гэтай праблемай цяжкасцей і уніяты, сярод якіх было не мала абаронцаў беларускай мовы.

Са сказанага вынікае, што вядучыя рэлігійныя веравызнанні на Беларусі не толькі могуць мець годную будучыню, але і маюць элементы годнага мінулага. На жаль, гэтыя годныя элементы звязаныя не з іерархамі, а толькі з нізавымі духоўнымі. І тым не меней гэтыя духоўныя ўвойдуць у залатую

У форме дыгрэсіі хачу сказаць, што адзін з беларускіх мастакоў сказаў мне, што рыхтуе дзве ва ўвесь рост металічныя фігуры Ефрасінні Полацкай і Францішка Скарыны, якія будуць пастаўлены з двух бакоў уваходных дзвярэй у Беларускі музей у Гайнаўцы. Прыгожы і высакародны замысел! Каб толькі ўдалося яго рэалізаваць. Хочам таксама адну з залаў Беларускага музея прысвяціць сакральнаму мастацтву. Ужо на гэту тэму размаўлялі мы з архіепіскапам Савай і атрымалі ад яго ўступную згоду і падтрымку. Намерваемся таксама ў паразуменні і за згодай епіскапату Польшчы перанесці адну з праваслаўных каплічак на прымузейную плошчу. І ўсе гэтыя намеры поўнасцю зразумелы і лагічны. Вядома, што на духоўную беларускую спадчыну складаецца і рэлігійная духоўнасць, дык факты, звязаныя з ёю, павінны знайсціся у Беларускім музеі.

Яшчэ раз вяртаючыся на заканчэнне да рэлігійных спраў на Беларусі, хачу падкрэсліць, што каталіцкі касцёл і праваслаўная царква, а таксама іншыя веравызнанні, уфармаваўшыся ў нацыянальна-рэлігійныя арганізмы, павінны як найхутчэй увайсці ў кантакт і цеснае супрацоўніцтва з усімі тымі веравызнаннямі, якія дзейнічаюць сярод беларусаў за межамі Рэспублікі Беларусь. Маю на думцы перад усім Праваслаўную аўтакефальную царкву ў Польшчы, Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву на Захадзе, Беларускую уніяцкую царкву на Захадзе, Беларускую баптысцкую царкву на Захадзе і г.д. Усе гэтыя веравызнанні, захоўваючы кананічную, рытуальную і дагматычную спецыфіку, павінны аб'ядна́цца на грунце згоднай працы над адраджэннем беларускай нацыі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**




Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў **Шушкевіч** прызнаў сваім абавязкам падтрымоўваць справы палякаў на Беларусі. „Мы б хацелі, каб палякі на Беларусі былі палякамі і каб меншасць мела ўсе правы, якія адпавядаюць еўрапейскім стандартам", — сказаў ён падчас сустрэчы з польскай сеймавай дэлегацыяй. Станіслаў Шушкевіч сказаў, што беларуская адкрытая палітыка ў адносінах да Польшчы спрыяе наладжванню правільных адносін абедзвюх краін з нацыянальнымі меншасцямі.

**Беларусь** намерваецца ўвесці з 1 чэрвеня 1992 г. уласны **рубель**, які заменіць рускую валюту. Новы рубель будзе прыменены для выплаты 10—15 прац. усіх заработных плат і будзе можна яго абменьваць у прапорцыі 1 беларускі рубель : 10 рускіх. Ідэя ўвесці беларускі рубель замяніла ранейшы план выпуску купонаў.

2 ліпеня арганізуецца **паломніцтва вернікаў з усяе Беларусі** ў санктуарый Божай Маці ў Будславе. Будзе гэта першае афіцыйнае паломніцтва ў Будслаў, дзе і раней прыбывалі на „ратунак душы" вернікі і духоўныя з Латвіі, Літвы і Беларусі. Арганізатары запрашаюць да ўдзелу ў паломніцтве пілігрымаў з Польшчы, асабліва тых, у каго ёсць сваякі на Беларусі або магілы продкаў. Святкаванням старшынстваваць будзе мінска-магілёўскі арцыбіскуп **Казімеж Свёнтэк.**

**У Гайнаўцы адбыўся XI Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі.** Ва ўрачыстасці адкрыцця фестывалю ўдзельнічалі мітрапаліт **Васілій**, віцэ-міністр культуры і мастацтва **Міхал Ягелла**, прадстаўнікі ваяводскіх і гарадскіх улад. Інаўгурацыйны канцэрт пачаў мінулагодні лаўрэат — Хор Дзяржтэлерадыё з Менска пад кіраўніцтвам **Віктара Роўды**

**II Міжнародны кірмаш паграні́ччa Усход — Захад** праходзіў ад 15 да 19 мая г.г. у Белай-Падляшскай. Прымалі ў ім удзел каля ста польскіх фірмаў і 50 — з Беларусі, Украіны, Латвіі і Расіі, а таксама некалькі заходніх — з Іспаніі, Канады і Італіі.

Трое пераможцаў: **Артур Герасімюк з Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя** ў Бельску-Падляшскім, **Гжэгаж Гурэцкі** з Ляснога тэхнікума ў Белавежы і **Анна Гжэляк** з Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску-Падляшскім будуць прадстаўляць Беласточчыну на VII Алімпіядзе экалагічных ведаў у Варшаве.




- XI Фестываль царкоўнай музыкі.
- Вясковы асяродак здароўя ў Клюковічах.
- Яшчэ аб сустрэчы з прем'ерам Кебічам.
- Дзіцячы агляд "Беларуская песня '92".
- Гіт-парад "Пад знакам Пагоні".

## ВЕДЫ — ГЭТА БАГАЦЦЕ

Пад такім лозунгам адбылася нядаўна Алімпіяда маладых сельскагаспадарчых вытворцаў. Галоўным арганізатарам гэтага мерапрыемства было Ваяводскае праўленне Саюза вясковай моладзі. Удзельнічала ў алімпіядзе дзесяць маладых земляробаў, якія гаспадараць самастойна або разам з бацькамі.

Тры першыя месцы і прызы заваявалі: **Кшыштаф Аляксейчук** з Трывежы, **Аляксандр Авяркові́ч** з Сямяціч і **Яўген Галашэвіч** з Ягаднікаў.

Адзін з удзельнікаў конкурсу сцвердзіў, што цяпер немагчыма быць добрым вытворцам харчовых прадуктаў без ведання новых тэхналогій у галіне сельскай прадукцыі і яе пераапрацоўкі.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### УСЯ АПАРАТНАЯ РАЦЬ

Садружнасць Незалежных Дзяржаў /СНД/ пакрысе пачынае фарміраваць свой бюракратычны апарат. Днямі быў зацверджаны штат рабочай групы - 95 чалавек. Праўда, не ўсе краіны Садружнасці даслалі ў Менск, сталіцу СНД, сваіх прадстаўнікоў ад парламента і ўрада. Відавочна, многіх «паўпрэдаў» не вельмі задаволіла тое, што ім прапануюць жыць у звычайных нумарах гасцініцы «Менск», ды яшчэ і без сем'яў.

### СПАЧАТКУ БЫЛО СЛОВА

Навукоўцы з рэспубліканскага Інстытута мовазнаўства збіраюць грошы на выданне «Лексічнага атласа беларускіх народных дыялектаў». Шмат гадоў збіралі філолагі гэты пяцітомнік, у якім налічваецца 200 тысяч слоў. І вось, калі праца скончана, выявілася, што для выдання атласа няма грошай. Таму і звярнуліся мовазнаўцы да людзей за дапамогай. Дарэчы, усіх добраахвотных спонсараў вучоныя абяцаюць назваць у атласе

### ТРЭНІРУЙЦЕСЯ, МІНІСТРЫ

Днямі Беларусь наведала дэлегацыя ўрада Масквы на чале з прэм'ерам Юрыем Лужковым. Вынікам гэтага візіту стала падпісанне пагаднення аб гандлёва-эканамічным і культурна-спартыўным супрацоўніцтве. Між іншым, спадар Лужкоў выказаў прапанову ў бліжэйшы час правесці міжурадавы футбольны матч. Ці прыме гэты выклік кабінет Вячаслава Кебіча - пакуль невядома.

### ДЫМ ЧАРНОБЫЛЯ НАД БЕЛАРУССЮ

4 мая паблізу Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі адбыўся пажар. Амаль дашчэнту згарэлі тры бязлюдныя вёскі ў дзесяцікіламетровай зоне і больш чым 2 тысячы гектараў радыеактыўнага лесу. Але самае жахлівае, што разам з дымам і попелам у паветра ўзняліся мільярды радыенуклідаў, а вецер, як на злосць, зноў дзьмуў на Беларусь. Праўда, радыёлагі запэўніваюць, што значнага павышэння радыяцыйнага фону на тэрыторыі рэспублікі не назіралася.

### ЗОРНЫ ЧАС БЕЛАРУСКІХ ГЕНЕРАЛАЎ

Напярэдадні Дня Перамогі Савет Міністраў рэспублікі прыняў рашэнне аб ліквідацыі Беларускай ваеннай акругі /БВА/. Усе яе вайсковыя фарміраванні перападпарадкаваны, у рэшце рэшт, Міністэрству абароны Беларусі. Былы камандуючы Беларускай ваеннай акругі Анатоль Кастэнка прызначаны першым намеснікам міністра абароны рэспублікі. Адметна, што цяперашні шэф беларускага «Пентагона» Павел Казлоўскі ўсяго некалькі тыдняў таму назад займаў пасаду першага намесніка камандуючага БВА. І яшчэ. 6 мая цэлая група афіцэраў беларускага войска з рук прэм'ер-міністра рэспублікі Вячаслава Кебіча атрымала генеральскія пагоны. Раней такое права мела толькі маскоўскае кіраўніцтва.

### ЗАХОЎВАЙЦЕ ГРОШЫ У ПАНЧОСЕ!

Тэарэтычна грамадзянін Беларусі па-ранейшаму не пазбаўлены права зняць са свайго рахунку ў ашчадным банку тую суму, якая яму патрэбна. Але пры наяўнасці агульнай сумы неплацяжоў у рэспубліцы звыш за два мільярды рублёў праўленне Беларускага нацыянальнага банка настойліва рэкамендуе яму карыстацца безнаяўнымі разлікамі. Атрыманыя днямі з Расеі 600 мільёнаў рублёў накіраваны ў Віцебск і Гомель, дзе выплата заработнай платы і пенсій пагражальна зацягнулася. Тым часам у Менску пенсіянеры штодзень паляць вогнішчы, ля паштовых аддзяленняў, каб сагрэцца ў бясконцай чарзе за грашыма.

### СВЯТА НА ВУЛІЦЫ НАЦЫЯНАЛ-ДЭМАКРАТАЎ

Нацыянал-дэмакратычная партыя Беларусі прымае гасцей з былых рэспублік Саюза і з-за мяжы. Тры дні будзе праходзіць у турысцкім цэнтры «Юнацтва» міжнародная канферэнцыя рухаў нацыянальна-вызваленчага накірунку пад назвай «Шляхі пабудовы дэмакратычнай дзяржавы».

У адрозненне ад мінулых сустрэч нацыянал-дэмакратаў цяпер абмяркоўваюцца не праблемы змагання «заняволеных народаў савецкай імперыі», а новая палітычная сітуацыя і далейшыя стратэгічныя мэты.

### БАЛТЫЙСКА-БЕЛАРУСКІ САЮЗ

У Менску адбылася устаноўчая канферэнцыя Балта-Беларускай асацыяцыі інвалідаў, прызваная скаардынаваць намаганні грамадскіх арганізацый інвалідаў Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Старшынёй аб'яднання стаў народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Мікалай Калбаска.

*МІКОЛА ДЗЯБЁЛА*

# ВЯРТАННЕ СКАРБАЎ ПАГРАНІЧЧА

*(Інтэрв'ю з польскай пісьменніцай Габрыелай Паўшар-Кляноўскай)*

**- Скажыце, калі ласка, як сталася, што Вашу кнігу «Нявыдуманыя гісторыі» пераклалі на беларускую мову?**

- Цяпер я дакладна ўжо не памятаю, як і калі гэта сталася, што спадарыня Ядвіга Бяганская звярнулася да мяне ў гэтай справе. Яна хацела спачатку перакласці аповесць «Pani Eliza», але, відаць, не знайшла падтрымкі ў выдавецтве і відавочна таму пераклала тыя «Нявыдуманыя гісторыі». Вельмі мяне парадавала і гэтым, бо тая кніжка карыстаецца асабліва добрым поспехам моладзі, маладыя людзі ахвотна яе чытаюць.

На жаль, не памятаю, хто мяне пазнаёміў з Ядвігай Бяганскай. Але гэта было на пачатку шасцідзесятых гадоў. Мы абменьваліся лістамі. Яна была вельмі мілай, сардэчнай, выказвала многа добрых слоў пра маю творчасць. У мяне захаваліся яе лісты.

**- Раскажыце пра Вашыя сувязі - літаратурныя ды асабістыя - з усходняй славяншчынай.**

- Калісь, у дзяцінстве, я была ў Менску. Было гэта ў 1914 годзе. Мой бацька тады працаваў у нейкай страхавальнай інстытуцыі, павязанай інтарэсамі з Расеяй. Вось да мужа, у Менск, маці вырашыла паехаць разам з дзецьмі. Мы мелі быць там толькі падчас летніх вакацыяў. Але ў жніўні ўжо не змаглі вярнуцца, таму што шкарлятынай захварэлі сястра і брат. А калі яны ачунялі, то тая ж хвароба павалiла мяне. У гасцініцы жыць з дзецьмі, заразна хворымі, было нельга, і бацька наняў кватэру. І мы ўжо асталіся там надоўга, бо пачалася сусветная вайна, Варшаву занялі немцы. Мы вярнуліся ў родны горад толькі ў 1918 годзе.

У Менску больш мне не прышлося быць. Ведаю, што горад быў цалкам знішчаны, а пасля нанава адбудаваны. З таго часу, калі я была там, не шмат што ў маёй тады дзіцячай памяці захавалася. Пазней не было магчымасці наведаць сталіцу Беларусі. Затое я была некалькі разоў у Гродне. Пасля апошняй вайны, калі стала збіраць матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю Элізы Ажэшка, да кнігі «Pani Eliza». Тады я наведала не толькі Гродна, але і тыя аколіцы, з якімі звязана была пісьменніца, напрыклад, Мількаўшчыну. Апрача вось гэтага, іншых кантактаў у мяне з Беларуссю не было.

**- Калі Вы збіралі матэрыялы да аповесці «Pani Eliza», ці сустракаліся Вы з беларускімі пісьменнікамі?**

- Ніякіх сустрэч не было. Я хадзіла сваімі дарогамі. Сустракалася тады з многімі асобамі, якія помнілі, знлі Элізу ў Гродне. Аднак, гэта былі найчасцей палякі - яе кухарка, яе Адольф /лёкай яе мужа Нагорскага/, яе апошняя сакратарка. З імі знаёмілася, гутарыла, выпытвала. Ездзіла я і на Палессе, у маёнтак Людвінаў, дзе Эліза Ажэшка жыла з мужам Пятром Ажэшка. Потым, калі з'явілася тая кніжка, яе трэцяе, пятае выданне, то ўся сям'я Ажэшкаў прайшла праз мой варшаўскі дом. З Пятром у Элізы не было дзяцей. Я гавару пра сям'ю брата Пятра, які зваўся Флёрэнты Ажэшка. Ён меў вялікі ўплыў на Элізу, гэта ён падключыў яе да дзейнасці ў паўстанні, разбудзіў у ёй патрыятычныя пачуцці. Потым



Эліза ўспамінала яго сэрцам, з удзячнасцю. Сям'я гэта жыла ў Радоме, Флёрэнты быў лекарам. Я знаёмая была з яго дачкой, спадарыняй Арцішэўскай, яго сынамі ды ўнукамі.

**- Ці захавалася ў іх нейкае рэха беларускай культуры?**

- Бадай што не. Хутчэй за ўсё не.

**- А Эліза Ажэшка - ці мела ў сабе штосьць з беларускай культуры?**

- Яна - польская пісьменніца. Але да беларускага народа, да тадышніх беларускіх літаратараў, якія яе наведвалі, адносілася з вялікай і шчырай сімпатыяй. Такія кнігі Элізы Ажэшка, як «Дзюрдзі» альбо «Хам», поўныя любові да гэтага народа, глыбокай пранікнёнасці ў яго жыццё. Асабліва «Дзюрдзі» прасякнуты духам той беларускай вёскі. А сама Эліза, хоць карэспандавала з беларусамі, не пісала пабеларуску, не выказвалася на беларускай мове. Такіх слядоў няма. Хоць напэўна ведала беларускую мову. Жыла ж сярод беларускага насельніцтва.

**- Несумненна, Эліза Ажэшка стаіць на пагранiччы дзвюх культур. А што Вы думаеце пра беларускасць Адама Міцкевіча, Станіслава Манюшкі, Уладзіслава Сыракомлі?**

- Мне здаецца, што зварот «Litwo, ojczyzno moja» напраўду цяжка аднесці да Літвы. Міцкевіч быў выключна польскім паэтам і Літва была для яго толькі месцам нараджэння. Тое самае можна сказаць і аб Элізе Ажэшка, хоць тая Беларусь і яе насельніцтва, беларуская мова былі ім блізкія, яны яе разумелі, яна ўваходзіла ў іх светаўспрыманне, яна для іх гучала - асабліва для Манюшкі. Спеўнасць той мовы, мелодыка, фальклор увайшлі ў яго творчасць.

А Сыракомля? Калісь, пасля апошняй вайны, калі мы з мужам былі ў Вільні, там наведалі ягоную дачку. У яе захавалася многа чаго па бацьку - карціны, якія Сыракомля сам маляваў, яго рэчы, прадметы. Аднак яна заявіла, што нічога не дасць беларусам, хоць ад Саюза беларускіх пісьменнікаў яна атрымлівала матэрыяльную дапамогу, як мне здаецца. Не ведаю, чым гэта ўсё скончылася. Ва ўсякім выпадку дачка Сыракомлі Беларусі не прызнавала.

**- Сучасная беларуская літаратура не можа пахваліцца такім засваеннем сваёй трагічна-вялікай гісторыі, як польская літаратура. Мне здаецца, што няма таксама беларускага эквіваленту маштабу ды тэмпераменту Вашаму пісьменніцкаму таленту. Якімі аповесцямі, у перакладзе на беларускую мову, Вы маглі б пашырыць веды беларусаў пра іхнюю гісторыю, якая ж у значнай ступені з'яўляецца гісторыяй двух народаў.**

- Я ўспрымаю тое, што вы гаворыце, як незаслужаную пахвалу. Так, я напісала многа гістарычных аповесцей. Задумоўваюся, каторая з іх была б блізкая беларускаму чытачу, пашырыла б ягоныя далягляды. Думаю, што усё ж такі тая «Pani Eliza», таму што і сама Эліза Ажэшка адчувала вялікую сімпатыю беларусаў. Вядома, у яе акружэнні былі палякі. Але былі і такія, якія станавіліся беларусамі. Я не магу цяпер успомніць тое прозвішча аднаго літаратара, паляка па паходжанню. Так яго ўсмактала жыццё беларускай вёскі, тая беларуская культура... Ды яна сама ў тым засценку, напалавіну польскім, напалавіну беларускім... Дык жа да Элізы Ажэшка - польскай пісьменніцы, гэтак могуць прызнавацца і беларусы. Можа больш, чым да Міцкевіча.

*Гутарыў*
**ЯН ЧЫКВІН,**
*люты 1992.*




ВІКТАР ШНІП

### НА ЗАБЫТЫХ КЛАДАХ

Толькі цені прыходзяць з Нябыту
Па сцюдзёных ступеньках капліц.
Цені ходзяць па цэгле разбітай
І па шкле. Ім нішто не баліць.
Ды шкада ім забытага Храма,
Ды шкада ім забытых магіл.
А за плотам памыйная яма,
І дарогі атрутлівы пыл.
Ходзяць моўчкі журботныя цені,
Як грахі нам даруюць, - смяццё.
Перад імі нам стаць на калені б
І праклясці сябе і жыццё
За кароткую памяць і здраду,
Здраду родным і блізкім сябрам.
Мы у чэргах жывём за зарплатай,
Мы у чэргах гібеем ля крам.
Нам здаецца - мы вечныя людзі.
Толькі вечнасці нам не спазнаць.
Крыжык б'ецца аб хворыя грудзі-
Як ахвота сябе ўратаваць! -
Да царквы мы спяшаем разбітай,
Каб прад Богам упасці ўсё ж ніц...
Ды насустрач не выйдуць з Нябыту
Нават цені з забытых капліц.

* * *

І спалілі наш Храм і зраўнялі магілы,
І сказалі: «Вам будзе тут вольнасці пляц».
І анёлак любові злажыў свае крылы
І упаў на зямлю,
застагнала зямля.

І на пляцы бязверцы паставілі помнік
Чалавеку, якога не ведаў народ.
І сказалі: «Ад смерці ён вас абароніць.
Вы ж ідзіце на фабрыкі і на завод...»

Паслухмяныя людзі пайшлі,
і як трэба
Сталі моўчкі цярпліва гарбы нажываць.
І забыліся бога, наеліся хлеба
І брат брата за грошы пачаў забіваць.

І вялікі народ стаў, як цень той, бяссілы.
І, пакуль ён са свету зусім не сыйшоў,
Там, на пляцы, дзе збураны Храм і магілы,
Празас фальт
праступіла
бунтарская кроў.

* * *

Не люструецца неба ў змутнелай вадзе
І ў канаве дарожнай канае вада.
І ніхто больш не едзе, ніхто не ідзе
Па забытай дарозе. Буяе жуда
Сакавітай, маўклівай, як вечнасць, травой.
А па гэтай дарозе імчалі вазы,
Уздымаючы грукат і пыл над сабой,
І ў прасторы звінелі людзей галасы.
Сёння тут гаспадарыць лагодная ціш.
Толькі ціш, як заўсёды - бязбожны спадман.
Да канавы з вадой прабіраецца мыш,
А за мышшу цікуе галодны груган...
...Не люструецца неба ў змутнелай вадзе.
І канае вада - адшумела вясна.
Тут ніхто больш не едзе, ніхто не ідзе-
Толькі вечнасць адна, толькі вечнасць адна.

* * *

Агеньчык свечкі ў цемнаце трапеча
Пакінуты ў царкве ля абразоў.
Журботны чалавек пайшоў у вечар,
Шукаючы спагаду і любоў.
Па цёмных вуліцах блукаюць цені,
Па цёмных вуліцах лятуць вятры.
І ўсе дамы, нібы турмы скляпенні,
Глядзяць на свет замкнуўшыся знутры
І не жадаюць слухаць анікога.
А ён ідзе, наіўны, малады,
Яшчэ ён верыць у людзей і Бога,
Не знаючы ні шчасця, ні бяды.






Z wielkim smutkiem przeczytałem w ostatniej "Niwie", jak białoruscy aktywiści wzięli się za łby, że im z czubów kurzy się na całą Polskę. Pokazali wielkie, brzydkie białoruskie pośmiewisko. Z tego wnioskuję, że obie strony niewiele mają do roboty, a właściwie niewiele robią dla tej biednej białoruskiej mniejszości, bo roboty jest mnóstwo, skoro mają tyle czasu na przewlekłe bijatyki (...). A ja tak lubię czytać o tym, jak Białorusinomn udaje się zrobić coś dobrego i pięknego, jak np. o przepięknych festiwalach białoruskiej piosenki, o międzynarodowych festiwalach muzyki cerkiewnej, o postępach na wspaniałej budowie białoruskiego muzeum w Hajnówce, o wypowiedziach starych mądrych Białorusinów i t.p. Wymieniłem przykłady, które znam w Hajnówce. Z ogromną przyjemnością usłyszę (może przeczytam w "Niwie") o innych podobnych osiągnięciach Białorusinów. Ale czy o tym usłyszę i przeczytam, jeśli białoruscy aktywiści będą ciągać się za łby z powodu jakichś tam komputerów (...).

Redaktorzy nowej "Niwy" walnęli kierownictwo BTSK tym, co może mocno zaboleć. Mianowicie oskarżyli kierownictwo BTSK, że kiedyś doprowadzili do likwidacji białoruskich szkół na Białostocczyźnie i likwidacji białoruskiego muzeum w Białowieży. Nie znam szczegółów. Kierownictwa BTSK nie chwalę, ale też nie wierzę redaktorom "Niwy", że np. BTSK kiedyś zorganizowało białoruskie muzeum w Białowieży, żeby go potem z własnej nieprzymuszonej woli zlikwidować. Nie wierzę w to, brak tu zwykłej logiki.

Cała więc ta sprawa jest brzydka i smutna.

Z poważaniem

**Julian Kazberuk,**
Hajnówka

---

Фактычна, цэлая гэтая справа брыдка пахне. Але тут жа ўзнікае і пытанне — ці журналісту наканавана пісаць адно пра тое, што мае прыемны пах? Склалася так, што апошнім часам, акрамя несумненных поспехаў і дасягненняў у беларускім руху, паявілася шмат гэткіх брыдкіх месцаў і запахаў. Яны, як ні круці, з'яўляюцца таксама элементам беларускага жыцця, якое праходзіць на вачах і палякаў. Хаваць галаву ў пясок — нічога тут не зменіць. Калі знікнуць гэтыя брыдкія справы з жыцця, то знікнуць яны і са старонак „Нівы".

Справа датычыць не „jakichś tam komputerów", а прыладаў працы рэдакцыі. Калі б рэдакцыя не была згуртаваным і прафесійна падрыхтаваным калектывам, выданне „Нівы" магло б разладзіцца. Так, на шчасце, не сталася, і калі Вы надалей будзеце пастаянным чытачом „Нівы" (мяркуючы па Вашаму допісу, Вы такім былі дагэтуль), то несумненна знойдзеце ў газеце, як і дагэтуль знаходзілі, усё тое, што выклікае Ваш гонар. Ваша боязь, што мы будзем змяшчаць выказванні адно саміх дурняў, нічым не абаснаваная. Паверце мне.

З павагай

**ЯН МАКСІМЮК**



# Фота-вітрына



**ВЯСНА**

*Фота Уладзіслава Завадскага.*

## РАПАРТ АБ БЕЛАРУСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

Нацыянальны даход Беларусі ў параўнанні з першым кварталам мінулага года на працягу першых трох месяцаў 1992 г. знізіўся на 14 прац., а прадукцыя паменшылася на больш чым 10 прац. — сцвярджаюць аўтары апублікаванага ў пачатку мая рапарта аб стане беларускай гаспадаркі.

Паводле іх самым цяжкім перыядам былі студзень і люты, калі драматычна зменшыліся пастаўкі сыравіны і матэрыялаў з іншых краін Садружнасці, перш за ўсё з Расіі.

Прадукцыя не знізілася толькі ў тых галінах, якія карыстаюцца мясцовай сыравінай, напрыклад, прадукцыя будаўнічых матэрыялаў.

На рынку з'явілася на 3 прац. больш тавараў шырспажыву, чым у першым квартале 1991 г. Аднак у магазіны трапляе штораз менш харчовых прадуктаў. Продаж мяса і мясных вырабаў паменшылася на 35 прац., а малочных прадуктаў — на 17 прац.

Даходы насельніцтва ўзраслі ў чатыры разы, затое розпічныя цэны і паслугі павысіліся ў сярэднім у сем разоў у параўнанні з першымі трыма месяцамі мінулага года.

Паводле аўтараў рапарта, у выніку павышэння цэн зменшваецца попыт на прамысловыя прадукты. Штораз менш людзей можа купіць сабе тэлевізар або халадзільнік за некалькі дзесяткаў тысяч рублёў.

Выэкспартавана на 60 прац. менш грузавікоў, 45 прац. менш трактараў і 31 прац. менш халадзільнікаў. Лепш выглядае экспарт іншых тавараў — за граніцу прададзена амаль у восем разоў больш веласіпедаў, на 36 прац. павысіўся экспарт тэлевізараў.

Вартасць імпарту дасягнула 2,8 млд. рублёў. Да 1 красавіка былі падпісаны кантракты на пастаўку толькі 57 прац. патрэбных тавараў і 43 прац. сыравіны, неабходнай для нармальнага функцыянавання прамысловасці.

Сур'ёзнай, хаця да нядаўна яшчэ зусім невядомай праблемай будзе ў гэтым годзе беспрацоўе. Хаця ў рэспубліцы знаходзіцца яшчэ каля 45 тысяч свабодных месцаў працы, у маі і чэрвені будзе праўдападобна звольнена 43 тысячы рабочых. У сакавіку ва ўстановы пасрэдніцтва працы падалося 13 тысяч чалавек, з чаго толькі палова атрымала працу. У пачатку мая кліентамі гэтых установаў было ўжо 26,5 тысяч жыхараў Беларусі.

**ЦЭЗАРЫ ГАЛІНСКІ**
(*„Газета Выборча"*)

## ГАБЕЛЕНЫ ПАНІ БАРБАРЫ

**Барбара Гуляніцкая** /дзявочае Серакоўская/ нарадзілася ў Варшаве і там закончыла Мастацкую акадэмію ў 1954 годзе. Потым выйшла замуж і разам з мужам паехала на першую працу ў Мікалайкі, дзе абое працавалі пры кансервацыі і рэканструкцыі старых мазурскіх тканінаў - дываноў і кілімаў. З Мікалаек сужонства Гуляніцкіх пераехала на працу ў гарадок Рэшаль, дзе стварылі галерэю мастацва Варміі і Мазураў і заснавалі Дом творчай працы.



"Рэлігіі свету. Праваслаўе."
Падвойная тканіна, 267 х 150 см.

Наступны этап на творчым шляху Гуляніцкіх - гэта Фромбарк - горад, у якім з 1512 года жыў і працаваў Мікалай Капернік. Там яны працавалі у Музеі Каперніка, арганізавалі святкаванні ў сувязі з «Каперніканскім годам». У Фромбарцкім кафедральным саборы да сёння знаходзіцца серыя іх габеленаў, прысвечаных вялікаму астраному, стваральніку геліяцэнтрычнай сістэмы свету.

Цяпер мастакі жывуць у горадзе Барчэва і там апякуюцца яўрэйскай сінагогай. У гэтай жа сінагозе Грамадска-культурнае таварыства «Pojezierze» адкрыла школку для аматараў ткацтва, якую вядзе і навучае гэтаму мастацтву пані Барбара. У школцы пяць кроснаў, на якіх займаецца дваццаць ткалляў. 12 сакавіка г.г. у Барчэве адкрылася выстаўка габеленаў Барбары Гуляніцкай. На ёй можна паглядзець пятнаццаць падвойных дываноў. Мастацкія тканіны прадстаўляюць сімвалы і матывы, звязаныя з найвялікшымі рэлігіямі свету. На цэнтральным месцы красуецца прыгожы габелен, прысвечаны юдаізму. На ім знаходзіцца выява прарока Майсея, сямісвечнік і прыгожыя раслінныя арнаменты. Побач два габелены памерамі 267 см х 150 см, прысвечаныя праваслаўю і каталіцызму. Ля самага ўвахода знаходзяцца тканіны, якія тэматычна датычаць ісламу, будызму і гіндуізму. Прэзентаваныя на выстаўцы габелены тканыя ніткамі двух колераў.

Мастачцы Барбары Гуляніцкай многа дапамагае яе муж, ды не толькі пры кроснах, але таксама і пры арганізаванні выставак. Было іх ужо пяць. Былі габелены нават у Рыме, але італьянцы не праявілі вялікага зацікаўлення да такога віду мастацтва. Мастацкія тканіны экспанаваліся двойчы ў Нямеччыне. З экспазіцыі ў ольштынскім Бюро мастацкіх выставак габелены пані Барбары трапілі ў дзіцячую бальніцу, якую наведаў у час свайго апошняга візіту папа Ян Павел II.

Цяпер ёсць прапанова арганізаваць выстаўку ў Браневе, але раней мастакі паедуць з габеленамі ў Травеміндэ, што ў Нямеччыне. На маю думку, габелены Барбары Гуляніцкай павінны паглядзець таксама жыхары Беласточчыны.

А можа, такую выставу наладзіў бы Беларускі музей у Гайнаўцы?

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК,**
*Ольштын*

# З ДЗЁННІКАЎ
## С. ЯНОВІЧА

*30-07-1988 г.*

Учора - з Варшавы: тры дні прамарнаваў, пакуль выхадзіў візы сабе і Тані ў Канаду ды ў ЗША. І ... прыкры сюрпрыз: нейкая Марыя Харытанюк, якая - на просьбу «адтуль» - прынялася дапамагчы мне і Тані ў куплі авія-білетаў, кажа сёння, што яна ўжо пакінула рабіць гэтыя захады, бо як сваяк-эмігрант напісаў ёй: задаволеныя тамака прыездам у Таронта «Дубіноў», а дапамагаць іншым неабавязкова, тым болей, што трэба даваць палякам у Варшаве хабар ... Дадаючы: прыезд «Дубіноў» паказаў, якія вялікія кошты ідуць, etc.

Ну не, я з Таняй і так паеду! Той Палескі /Шаршуновіч/ з Канадскага таварыства «Беларусь» хацеў, каб я з'явіўся да трэцяга верасня, на Кангрэс Беларусаў Паўночнай Амерыкі. Цяпер будзе наўрад ці рэальным... Мне гэта якраз адпавядае - не для мяне і не для нашай тут справы патрэбны быў бы мой удзел у Кангрэсе, але я - таму Кангрэсу. Ахвотна прыпазнюся!

У «Палітыцы» - зноў Тамашэўскі. «Mniejszości - temat wstydliwy».

«Сустрэчы» н-р 8-9 нашмат лепей зробленыя. Культура беларускай мовы ў іх будзе расці і дзякуючы сувязям з патрыятычнымі «нефармаламі» ў БССР, равеснымі ім /закон псіхалогіі/.

*02-08-1988 г.*

Заўчора неяк з'явіўся Лёнік. Званілі яму з Нью-Йорка /Орса?/, каб дапамог ён мне, а фактычна каб купіў для мяне і Тані білеты на самалёт у Амерыку, які вылеціць не пазней 2-га верасня /кошт будзе вернуты імі Лёніку/. Уся справа ў тым, каб я паспеў на той Кангрэс, аднак. Мой удзел у ім забяспечыць мяне матэрыяльна на доўгія гады! Вось так.

Лёніку пад сілу гэтакі выдатак. Чытаю ў «Палітыцы» - «Sukces dla nielicznych» /30.VII./: «Tarasewicz na razie sprzedaje się po około 15 tys.» /долараў, у Нью-Йорку, у тамашніх галерэях/. Гэта ўразіць нашу галоту! Справядліва маўчыць ён пра свае заробкі. І вельмі асцерагаецца нашай нелегальшчыны, бо эвентуальная блакада яму ўладамі замежных паездак перакрэсліла б ягонае маладое мільянерства. У бізнесе трэба асабіста прысутнічаць, пастаянна праводзіць здзелкі, дзяліцца грашыма з тымі, хто нaгaняе іх у твае рукі, etc.

Успомнілася Туронкавае: айцец /.../ не дасць расцвісці Скарынінцы ... сваёй анахранічнай скупасцю! Відаць - праўда, калі прыпомню, як ён адносіўся да мяне /у Англіі/.

Калі «перестройка» ў СССР пойдзе ў такім духу далей, дык у недалёкай будучыні пачнуць ездзіць на Захад хлопцы ды дзяўчаты з Мінска. Мы, з Беластоцкага краю, перастанем быць цікавымі там. Праўдападобна - гэта ўжо перадапошні момант, калі яшчэ нехта з амерыканскіх беларусаў бачыць нацыянальны сэнс у тым, каб запрашаць нас і выдаткоўваць дзеля гэтага немалыя грошы, беззваротна /мы ж не можам узамен нічога ім даць ці зрабіць/. Перастануць запрашаць - перастанем ездзіць. Аніякая ўрадавая агенда не дасць анікому з нас валюты на так дарагі выезд.

*04-08-1988 г.*

Пішацца сяк-так: адразу два апавяданнейкі падвалакаю да фіналу, і крыху публіцыстыкі.

У «Кур'еры падляскім» ад 29-31 ліпеня - «Zmowa milczenia», Расінскага пераказ трагічнага выступлення Васіля Быкава на старонках «ЛіМ» 25 сакавіка.

Прыязджаў Яраслаў, як заўсёды - нанач толькі, усё часу ў яго няма. Не бачыць сабе перспектыў у Польшчы, якая валіцца і прападае. Кажа: цяпер, калі амаль усё ўжо дазволенае, штораз чуваць, што нехта бярэцца выдаваць беларускі часопіс, але дзе гэтыя яны былі тады, у гады татальнай забароны!?... Тым не менш праўда, што калі б не «Biełaruskija Dakumenty», а потым і «Сустрэчы», не наглядалася б сёння гэткага ажыўлення.

У «Ніве» /7.VIII/ - добра апублікаваная «Настуся-пані».

Антось Мірановіч: У Гродне адраджаецца польскае, арганізоўваюць - таварыства, газету, чатыры пачатковыя школы і дзве сярэднія. Беларускіх - у беларускім Гродне - няма ніводнай! А Ткачова, добрага духа «Паходні», цяжка пабілі нейкія расіякі /у час археалагічнай экспедыцыі?/. Для культурных сувязяў - у Беласток - савецкія органы высылаюць гродзенскіх палякаў /даволі дэкларавацъ сябе беларусам, каб не паехаць/. Расійская навалач гразіцца, што паліквідуе польскія школы так, як беларускія. Не думае, што за савецкіх палякаў урэшце заступілася польская дзяржава. А беларусы - сіроты. /.../

*/Працяг будзе/*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ! — З ПЕРСПЕКТЫВЫ ДВУХ ГАДОЎ

Святкаванне ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі сталася ўжо традыцыяй. 25 Сакавіка святкуецца не толькі ў так званым „вольным" свеце. Паступова ў свядомасць беларусаў уваходзіць гэтая дата як сімвал змагання за незалежнасць.

З гэтай нагоды 21 сакавіка ў беларускім клубе ў Гданьску адбылася вечарына. Урачыстыя рамкі зрабіў гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Пра лёсы дзеячоў БНР распавядалі Лена Глагоўская і Крыстына Гамулка. Як на іронію лёсу найцяжэй, найтрагічней склаліся яны ў тых, якія хацелі будаваць незалежную Беларусь на беларускай зямлі, а не ў эміграцыйным зацішшы. І Язэп Лёсік, і Вацлаў Ластоўскі, і Аркадзь Смоліч, і Аляксандр Цвікевіч і іншыя, якіх у розны перыяд спакусіла Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка, скончылі аднолькава: названыя нацдэмамі, не мелі яны права ажыццяўляць „сваю" Беларусь пасля 1930 года. Не мелі права нават існаваць у гістарычнай памяці так, як пазбаўленая гэтага была Беларуская Народная Рэспубліка, у карэнным Менску і яго наваколлі.

Мацей Канапацкі, ад дзяцінства вырасшы ў беларускай стыхіі, прааналізаваў жывучасць беларускай думкі, яе сувязь з людзьмі, зямлёю ад даўнейшых па сённяшні дзень. Ягоныя філасофскія рэфлексіі ўдухавілі нас усіх. Гэта ж дзякуючы яму мы з першых вуснаў даведаліся пра святкаванне ўгодкаў БНР у міжваеннай Вільні і пра беларускую віленскую гімназію.

Спадар Сэлім Хазбіевіч прадставіў праблему асіміляцыі татараў у Беларусі і ўдзел іх у змаганні за незалежную Беларусь (прыпомніў постаць Хасана Канапацкага. Усе сабраныя змаглі пазнаёміцца з квартальнікам Згуртавання татараў-мусульман у Беларусі „Аль Кітаб-Байрам", які выходзіць у Менску на беларускай мове.



*З дакладам выступае Мацей Канапацкі.*



*На святкаванні ў Вільні. Злева: В. Ландсбергіс, С. Шушкевіч і П. Садоўскі.*

Прыемна было на душы, што памяць пра БНР жыве не толькі сярод беларусаў. І яшчэ ў якім месцы — у Гданьску! Радыё „Балтык" тройчы ўспамінала пра ўгодкі: 23 сакавіка пасля вечарыны ў клубе, 25 сакавіка ў дзень незалежнасці БНР і 5 красавіка ў гадзіннай перадачы, падрыхтаванай Аннай Сабэцкай, пра гісторыю Беларускай Народнай Рэспублікі. Надта многа, калі аднесці гэта да 1989 года, калі ў Беларусі міліцыянеры з дубінкамі разганялі тых, хто паспеў прыпомніць пра ўгодкі.

Якраз два гады таму назад давялося мне святкаваць на Беларусі ў Гародні. 25 сакавіка трэба было падумаць, як дайсці да пляца Леніна з бел-чырвона-белым сцягам, каб яго не адабралі. Мікола Таранда з гродзенскай „Паходні" прасіў нас, каб не ўмешвацца ў „нелегальны" мітынг, а то не вернемся назад. Гэта ўсё здавалася тады магчымым. Асталася нам канспірацыйная праца: развешванне газетак „Дзень Волі" і лістовак, фатаграфаванне і нагляданне за працягам мітынгу. Не ўдалося яго правесці на пляцы Леніна — больш было міліцыянераў, чым ахвотных ім супраціўляцца. Давялося перайсці ў другое месца, дзе сабралася даволі многа народу. Гучалі патрыятычныя песні, луналі сцягі і „Пагоні". Чуліся і такія аргументы нейкага важнага міліцыянера: „Вы паслугоўваецеся фашысцкімі сімваламі!" (пра бел-чырвона-белы сцяг і „Пагоню"). Такія аргументы пераконвалі старэйшых жанчын, якія выкідалі з сябе розныя брыдкія словы ў бок маніфестантаў. Пасля мітынгу Мікола сказаў: „Цяпер чакай, як прышлюць штраф".

А тады ўжо падзеі пакаціліся надзвычай хутка, асабліва пасля жніўня 1991 года, калі канчаткова распалася савецкая імперыя. І гэтыя „фашысцкія" сімвалы сталі сімваламі Беларусі — дзяржаўнымі, прынятымі афіцыйнымі ўладамі. Цікава, ці спадар міліцыянер з Гародні прыняў іх як свае, ці надалей астаўся кансерватарам у справах дзяржаўнай сімволікі.

*Працяг на стар. 6*

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ! — З ПЕРСПЕКТЫВЫ ДВУХ ГАДОЎ

*Працяг са стар. 5*

Хаця прайшлі два гады з таго часу, 25 Сакавіка не з'яўляецца дзяржаўным святам незалежнасці. Не праводзяцца ўжо мітынгі, бо і за што, калі незалежная Беларусь і з чым, як дзяржаўны сцяг прыняты бел-чырвона-белы, а „Пагоня" з'яўляецца гербам Беларусі. Хтосьці па дарозе забыўся толькі фармальна ўстанавіць 25 Сакавіка афіцыйным святам. А можа гэта пакуль не трэба? Лепш прыняць іншыя даты. 25 Сакавіка ў сваім змесце надта ж пакутлівая дата. А можа гэта каму-небудзь яшчэ не выгадна?

Афіцыйнае святкаванне адбылося 25 сакавіка ў Вільні з удзелам Станіслава Шушкевіча (старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь) і Вітаўтаса Ландсбергіса. На адкрыцці вечарыны прамаўлялі вышэй названыя і Лявон Луцкевіч. Прамовы былі ў добрым дыпламатычным тоне. З гэтай нагоды у старажытную крывіцкую Вільню прыехаў тэатр імя Янкі Купалы з Менска. Паставілі п'есу Янкі Купалы „Тутэйшыя". У сваёй ігры перайшлі, здаецца, самі сябе. Мусіць, спрыяла ім святочная атмасфера.

З удзелам прадстаўнікоў уладаў Літвы і Беларусі і Таварыства беларускае культуры „Сябрына" адбыўся банкет. Многа было тостаў за Беларусь і беларусаў у розных варыянтах часу, межаў і падзеяў. І падумаць, што яшчэ два гады таму назад і цяжка было аб гэтым марыць, хаця ў Вільні і тады афіцыйна святкавалі ўгодкі БНР.

ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ

## СЁННЯШНЯЯ БЕЛАРУСЬ

*працяг са стар. 1*

беларускай мовы, што паступова выцясніла б расейшчыну. Апрача таго, заўважыў ён, што беларусы, хоць і паслугоўваюцца расейскай мовай, то аднак у гутарках з ім — як польскім сенатарам у часе візітаў на Беларусі — ганарыліся сваім беларускім грамадзянствам і Рэспублікай Беларусь, якую ў сваіх ацэнках ставілі вышэй Расеі.

А. Баршчэўскі пацвердзіў гэтую заўвагу, а такія паставы грамадзян РБ ацаніў як важны чыннік у адраджэнні мовы і самой краіны, што патрабуе аднак часу, прыблізна 10—15 гадоў.

Запісаў
ЯНКА ЖАМОЙЦІН

## СУСТРЭЧА Ў ДАРОДЗЕ

З дзядзькам Якубам Багацэвічам з Крывяціч пазнаёміўся я зусім выпадкова. Едучы праз гэтую вёску, затрымаўся быў я каля прыватнай крамы, каб нечага напіцца. На лавачцы, перад хатай і крамай, сядзеў якраз Якуб Багацэвіч, пільнуючы ўнучку Эмільку і, пад непрысутнасць сына, сямейны інтарэс. Мы перакінуліся словам-другім і, калі дзядзька Якуб пачуў, што я з «Нівы», вельмі ж уцешыўся.

„Я на<<Ніву>> падпісваўся 26 гадоў, - сказаў мне ён, - ад самага пачатку. Чытаў яе і захоўваў некаторыя артыкулы, фатаграфіі. А «Зорка» дык у мяне поўнасцю ў камплекце, за ўсе першыя 26 гадоў. Калі, можа, каму патрэбны які матэрыял з «Зоркі» з таго часу, кіруйце яго да мяне. Дам пагартаць мой архіў, магу пазычыць, толькі аддаваць не хачу за ніякія грошы.

Я вельмі любіў і люблю чытаць, хаця закончыў усяго чатыры класы. Прычым, калі я што чытаю, стараюся гэта адлажыць, захаваць, не знішчаць. Не так, як іншыя - узяў прачытаў газету, ды і выкінуў яе, або ў печы падпаліў. Я не, я стараюся зберагчы цікавейшае.

Перастаў я падпісвацца на „Ніву", калі захварэў і пайшоў на пенсію. Гаспадарку пераняў сын і ён пачаў падпісвацца на іншыя газеты, якія яго больш цікавілі, хаця б тая «Вспулчэсна». Але здаецца, што трэба будзе зноў вярнуцца да «Нівы», бо тыя польскія газеты мне неяк недаспасобы. Яны пішуць пра іншыя праблемы, не нашыя, канцэнтруюць



увагу на іншых аколіцах. А «Ніва» гэта наша газета".

Не скажу, каб мне не было прыемна пачуць такую апінію. Так мы прагаварылі недзе з паўгадзіны. Дзядзька Якуб крышку паспеў мне расказаць і пра сябе, ды - як то нашы людзі - не адпусціў без падарунка: малінавага соку і лізакаў для мяне, маёй жонкі і сына. І, вядома, запрашаў зноў да сябе, пагаварыць, пагледзець друкаваныя матэрыялы, якія ён зберагае. Я нагадваю чытачам, што калі каму патрэбная старая «Зорка», дык знойдзе яе ў Якуба Багацэвіча, што жыве ў Крывяцічах /нумар хаты 81; там дарэчы і прыватная крама/.

М.В.

## РАЗМОВА З ХАЛАСТЫМ СЕЛЯНІНАМ

— Я самастойна працую на гаспадарцы ўжо 20 гадоў. Я ў сям'і наймалодшы. Дзве сястры жывуць у горадзе, а дзве на вёсцы. Ім лепш чым мне, яны маюць сем'і. Я жыву з бацькамі адзін.

— *Чаму ж вам не ажаніцца?*

— Не ажаніўся ў пару, бо ўяўляў сабе, што мая жонка мусіць быць багатая прыстойная бландзінка. Гады міналі, а я такой і не знайшоў. Цяпер сам пакутую.

— *Ці аплоціцца вам працаваць на гаспадарцы?*

— Не. Падаткі і розныя складчыны надта вялікія. Дарагія мінеральныя ўгнаенні, запчасткі да сельскагаспадарчых машын і гаручае, але сялянскія прадукты амаль за бясцэнак скупляюцца.

Калі ліквідуюць пункты скупкі малака і жывёлы, то што тады будзе? Трэба будзе зноў як калісь ездзіць у горад прадаваць свае прадукты і такім чынам збіраць грошы на свае патрэбы і падатак.

— *Цяпер многа дзяўчат жыве ў бацькоў, бо ў гарадах працы няма. Ці не прабавалі вы да іх сватацца?*

— Маладыя на мяне і не глянуць. Яны чакаюць маладых хлопцаў. Кавалеры, якім ужо за трыццаць, гэта для іх ужо „старыя дзядзькі". Ёсць у вёсцы некалькі маладых сужонстваў, але да гэтай пары яны жылі ў горадзе і вярнуліся, калі ім не стала працы. Не раз я думаю, чаго я з горада вяртаўся на вёску. Бацькі зманілі самаходам. Думаў я, што самаход гэта вялікае шчасце, а цяпер, эх!

— *А не прабавалі вы пісаць у газеты, каб пазнаёміцца з дзяўчынай?*

— Прабаваў. Дзяўчаты хочуць, каб жыць у іх, а я прымаком быць не хачу.

— *Што думаеце рабіць далей?*

— Вясна ідзе. Трэба зноў цяжка працаваць, каб забяспечыць усё на зіму.

АЎРОРА

## ВЯСЁЛКА НАД БЕЛАЙ РУССЮ

( водрук на пазычаную кнігу )

Менскія пісьменнікі ледзь не ў роспачы. Дзесяткі гадоў сталічны друкарскі станок выдаваў празаічную і паэтычную прадукцыю, што ў зайздроснай колькасці з'яўлялася на свет. Жах апаноўвае часам: колькі «мнагатомных, манатонных і мнагатонных» збораў твораў /прыгадайма толькі аднаго «амаль народнага» Івана Навуменку!/ было выдрукавана саліднымі накладамі, аплочана з дзяржаўнае кішэні яшчэ больш саліднымі ганарарамі - і ў выніку апынулася на макулатурным сметніку...

Сёння менскім пісьменнікам, вядома, не салад. Няма паперы, няма фарбаў. Знаёмы дзіцячы паэт час ад часу даверліва скардзіцца, што не можа выдаць плён сваёй шматгадовой творчасці ў дзяржаўным выдавецтве «Юнацтва», якое пакуль што ўпэўнена трымае манаполію ў гэтай справе. Таленавітая дзіцячая кніжка вядомага Сяржука Сокалава-Воюша, таксама шмат гадоў марна паваляўшыся па рэдакцыйных шуфлядах, нарэшце апынулася ў калектыўнай «брацкай магіле» ў пакалечаным і скарочаным выглядзе. Затое дзядуля Ленін працягвае выхоўваць беларускіх дзетак у духу пралетарскіх ідэй - на кнігі пра гэтага самага чалавечнага чалавека ў «Юнацтве» знаходзяцца і папера /ды яшчэ якая!/, і каляровыя фарбы, і ўсё астатняе. Так і хочацца спытацца ў шаноўных выдаўцоў: «Якое, любыя, у вас тысячагоддзе на дварэ?» А на дварэ - 1991 год мінаваўся, час, здавалася б, падумаць і пра іншыя каштоўнасці. «А мы і думаем», - могуць адказаць занадта цікаўнаму ў тым жа выдавецтве. Вось нядаўна выдалі чарговую таміну свайго дырэктара паэта Валянціна Лукшы. У дружным калектыве, так бы мовіць, адзін за ўсіх... І з горам, маўляў, не знаемся. Не раўнуючы, як у Купалы: «Я калгасніца маладая, жыву весела, ані дбаю». А дбаць, вядома, трэба. Каб у зняверaных і падманутых бацькоў дзеці выраслі паўнавартаснымі гаспадарамі сваёй зямлі, каб ведалі пра Максіма Багдановіча і Ларысу Геніюш, пра Алеся Гаруна і Максіма Гарэцкага...

Наўрад ці знайшлося б месца ў выдавецкіх планах беластоцкаму паэту Віктару Шведу. Вершы ў яго някідкія, пра дзетак, якія не павінны вітацца з лысым дзядулем, пераступіўшы школьны парог, якім не трэба любіць сваю «вялікую Радзіму» ад «Буга да Курылаў», дзеля дзетак шмат у чым яшчэ незвыклых для нашых яшчэ нядаўна савецкіх школаў. Дзякаваць Богу, беларусы ў Польшчы не прывыклі спадзявацца на чужую дапамогу, і гэтым разам абышліся сваімі сіламі. Зборнік «Вясёлка» /Беласток - ГП БГКТ - 1991/ атрымаўся прыстойна аформлены, з цікавымі малюнкамі, нават /Захад жа!/ у супервокладцы з вельмі дэфіцытнай у Менску крэйдаванай паперы.

Скажу адразу, трапіў гэты зборнік да мяне зусім выпадкова: сябар пахваліўся прысланым падарункам і, ведаючы мае любошчы да прыгожага пісьменства, пазычыў мне на дзён колькі. Я добрасумленна пачаў чытаць - і мне спадабалася. Тут я не на жарты засердаваў і па прывычцы кінуўся шукаць розных хібаў і недахопаў, якімі /на маю думку/ ажно кішэлі дзіцячыя кніжкі нашых мясцовых класікаў ад Віткі да Авяр'яна Дзеружынскага, ад таго ж Лукшы да Васіля Жуковіча... Ажно непамысна зрабілася - не знайшоў. Кінуўся глядзець анатацыю да зборніка і, калі вычытаў, што творы Віктара Шведа друкаваліся нават ў нью-йоркскай беларускай «Чытанцы», супакоіўся і пачаў няспешна перагортваць старонкі ды смакаваць верш за вершам.

«Любі, браток, родны куток», «Я нарадзіўся беларусам», «Матуля вучыла сына: - Кахай дарагую Айчыну!» - чытаў я сваёй чатырохгадовай пляменніцы ды прыгадваў, як калісьці ў маленстве купіла мне маці кніжачку «Казкі для Міхаські» Ларысы Геніюш, дзе таксама ў кожным вершы жыла Беларусь.

*Я клянуся: не зракуся*
*Сваё роднае любіць.*
*Быў і буду беларусам,*
*Пакуль толькі буду жыць!*

# МАТУРА'92

З пісьмовых экзаменаў на атэстат сталасці моладзь у Ліцэі імя Браніслава Тарашкевіча выходзіла як з крамы з забаўкамі. Кожны хлопец, кожная дзяўчына нясслі пад пахаю плюшавага ката, тыгра, слана або бегемота. Быццам бы не экзамен быў самы важны, а тое, у каго большая ці прыгажэйшая лялька.

Аднак, самі вучні гэтаму запярэчылі, не лялькі былі найважнейшыя, а матура. Плюшавыя сябры мелі толькі прынесці шчасце, адвярнуць благое і... увагу настаўнікаў. Відаць, у Бельску сваю ролю выканалі, бо ўсе 88 чалавек, якія прыступілі да матуры /усе вучні чацвертых класаў/ прайшлі першы этап - пісьмовыя экзамены.

Дырэктар Зінаіда Навіцкая вельмі задаволена сваімі вучнямі. Яны добра падрыхтаваліся да матуры і не мелі асаблівых цяжкасцяў з пытаннямі. А ў гэтым годзе пытанні па польскай мове выглядалі крыху інакш. Былі яны так сфармуляваны, што менш патрабавалася ад вучняў знаёмасць канкрэтных фактаў, абавязковых школьных лектураў, затое высока ацэньвалася інтэлігенцыя, самастойнасць думкі, ачытанасць і агульнае азнаямленне з плынямі ў літаратуры, тэатры, кіно.

Другога дня /6 мая/ матурысты здавалі экзамен па выбраным прадмеце: матэматыцы, гісторыі, біялогіі або замежнай мове. У нашай школе і тут не было якіхсьці асаблівых цяжкасцяў, лічыць дырэктар З. Навіцкая.

7 мая вучні белліцэяў у Бельску і Гайнаўцы пісалі працы па беларускай мове. Трэба было выбраць адну тэму з прапанаваных:

1/ Мае разважанні аб багацці і трываласці спадчыны Якуба Коласа і Янкі Купалы.

2/ Уплыў гістарычных падзей на развіццё беларускай літаратуры.

3/ Як разумееш радкі верша: «А чаго ж захацелася ім Пагарджаным век, ім сляпым, глухім? - людзьмі звацца»

З размоў з вучнямі вынікала, што найбольшаю папулярнасцю карысталася першая тэма. Вядома - класікі. Іхнюю творчасць выпускнік беларускага ліцэя ведаць павінен, хаця збольшага.

Сёлета матура па беларускай мове набывае вышэйшы ранг хаця б таму, што адчыняюцца большыя магчымасці паступіць у вышэйшыя школы Рэспублікі Беларусь. Дырэктар Зінаіда Навіцкая сказала, што з іхняга ліцэя на далейшую навуку ў Беларусь плануецца 18 чалавек. /Больш-менш столькі ж вучняў выбіраецца туды і з Гайнаўкі./ Прычым на самыя розныя кірункі: на стаматалогію, у політэхнічны інстытут, у Менскі інстытут замежных моў на спецыяльнасць: англійская або іспанская мова.

Калі я быў у Ліцэі імя Б. Тарашкевіча, там чакалі спецыяльную камісію з Беларусі, якая мелася праверыць кандыдатаў. А экзамены на атэстат сталасці - вусныя - ішлі сваёю дарогай. Апошні экзамен - 23 мая. Потым ужо толькі атрыманне пасведчанняў, развітанне са школай і гайда ў свет.

**ак**



*Ад благога матурыстаў сцераглі талісманы.*

## СУСЕДСКАЯ МІЛАСЭРНАСЦЬ

Было гэта яшчэ зімою. Заехаў я ў вёску Х. па сваіх справах і зайшоў да солтыса, каб спытацца, дзе тут жыве Мікалай Х. Солтыс паясніў, што ў яго няма свабоднага часу, каб правесці мяне да гэтага Мікалая, бо зараз прыязджаюць рэпарцёры з радыё наведаць адзінокую ўдаву. Гэтая справа мяне вельмі зацікавіла і выразшыў я пайсці разам з солтысам.

Зайшлі мы ў хату. Хатка старэнькая, а ў хатцы яшчэ старэйшая жанчына, якой ужо 88 гадоў. Ляжыць яна ў чысцюсенькай пасцелі, хата прыбрана. Пачала яна расказваць нам пра сваё жыццё, як з'явіліся журналісты з радыё. Тады старуха ўсім расказала аб тым, як забылі пра яе родныя дзеці і цяпер мусіць спадзявацца на дапамогу суседзяў. А яе суседзі добрыя людзі - без ніякай карысці наведваюць яе па чарзе, прыносяць ёй страву, малако, носяць ваду, прыбіраюць у хаце, топяць у печы. А ўсё гэта робіцца па ініцыятыве солтыса.

У хату пачалі прыходзіць суседзі, і тады жанчына са слязамі ў вачах сказала: «Калі б не суседская дабрыня, іх спагада, міласэрнасць і хрысціянская культура, я баялася б, што пасля смерці не будзе каму пахаваць мяне, што цела пагрызуць пацукі... А так я ўпэўнена, што калі мне прыдзецца развітацца з гэтым светам, я не буду пакінутая суседзямі». Дзякавала яна суседзям за тое, што памятаюць пра забытую дзецьмі адзінокую старуху.

**Э. ШЧАСНОВІЧ**

P.S Дарагі чытач, паглядзі навокал сябе. Можа, і ў тваёй вёсцы ёсць людзі, якія чакаюць тваёй дапамогі, жадаюць, каб ты іх наведаў і працягнуў да іх тваю руку. Будзь міласэрным, зайдзі да іх на хвілінку. Не думай толькі пра сябе. А можа і табе будзе калісці патрэбная міласэрнасць іншых людзей?

- паўтарала за дзядзькам блакітнавокая Гражынка, а мне зноў прыгадвалася наша зэльвенская пакутніца, толькі ўжо з пазнейшых, «дарослых», вершаў:

*Адзінай мэты не зракуся,*
*І сэрца мне не задрыжыць.*
*Як жыць - дык жыць для Беларусі,*
*А без яе - зусім не жыць!*

Вось такімі былі мае першыя чытацкія асацыяцыі: Віктар Швед... Ларыса Геніюш...

Звычайна, вершы для дзяцей беларускіх паэтаў сама мала пакідалі ў мяне ўражанне недаверу. Тлумачу. Сярэднестатыстычны менскі пісьменнік пасля двух-трох кніжак прозы, паэзіі, публіцыстыкі /словам, чаго Бог пашле/ лічыць сваім абавязкам выдаць дзіцячую кніжку. Відаць, мяркуе, што калі агораў таўшчэзны раман, то маленечкую кнігібку пісануць за тыдзень-другі - рэч вельмі простая. І не падазрае часам такі «пісьменнік», што твор для маленькіх напісаць - патрэбны ці не падвойны талент ад таго, коштам якога ён бязбедна існаваў столькі часу. Вершы такіх паэтаў часта нагадваюць засушаны гербарый - і лісты на месцы і пялёсткі яшчэ не асыпаліся, а паху сапраўднага няма. Мёртвая кветка.

Асмелюся высунуць версію адваротную: Віктар Швед, маючы несумненны талент пісьменніка дзіцячага, зрэдзьчасу імкнецца сцвердзіцца і як «дарослы» паэт. Свежым прыкладам таму - выдадзеная нядаўна ў Менску /дальбог, не жартую/ ягоная кніга «Мая зялёная Зубровія». Аб ейных вартасцях, мажліва, мецьмем калі небудзь час і месца сказаць прынагоднае слова пазней.

Пэўна, не варта адцягваць увагу ды тлумачыць, чым ёсць для кожнага матчына калыханка, пачутая на далёкім мройлівым пачатку жыцця. Словы яе, ейная мелодыя застаюцца ў душы навечна. Ці трэба казаць, што напісаць гэткі твор - справа дужа нялёгкая. Тут не дапаможа арыгінальная метафара ці нейкі іншы па-мастацку ўдала выкарыстаны троп. Павінна прамаўляць пачуццё, непадуладнае паэтычным канонам. Ці шмат мы маем добрых беларускіх калыханак? Асабіста я, да сустрэчы з «Калыханкай» В. Шведа, ведаў дзве. Аўтарка аднае - знакамітая наша паэтка на эміграцыі Наталля Арсеннева, прыгадаю хоць бы пачатак:

*Ноч рассыпала зораў вагні,*
*У сінім небе яны патанулі.*
*Вее сон над прасторам зямлі.*
*Люлі, люлі, сыночак мой, люлі...*

І маладога менскага паэту-музыку /прапаную замест нянаскага «бард»/ Зміцера Сідаровіча, дзе міла апавядаецца, «як па справе пільнай Кот паехаў у Вільню».

«Калыханка» Віктара Шведа варта таго, каб быць працытаванай цалкам:

*Спі, засні, мая дачуся,*
*Хай жа прыдзе сон.*
*Узняла над Беларуссю*
*Ноч свой парасон.*
*Чорную надзела блузку,*
*Ноч пайшла ў абход.*
*Спіць народ наш беларускі*
*Пасля ўсіх турбот.*
*Сціхлі гукі роднай мовы,*
*Песенны напеў.*
*Сціхла ў векавых дубровах*
*Шапаценне дрэў.*
*Спіць прырода, твая матка*
*Пачала драмаць,*
*Спі, засні, маё дзіцятка,*
*Мусім рана ўстаць.*

Чым не калыханка, напрыклад, для беларускага радыё? Пры ўмове, вядома, напісання адпаведнай музыкі. А так беларускіх дзетак дзяржаўнае радыё, якое вельмі кепска ведае дзяржаўную мову, прымушае штовечар «закрываць» вочы, а не заплюшчваць, як гэта ведае кожны больш-менш адукаваны бацька. Калі ж не хочаш, каб дзіця засынала пад гэткую «беларускую» калыханку, сам прыдумай і спявай лепшую...

Надзвычай прывабна выглядае ў кнізе і раздзел пад назовам «Прыроду беражы, прыродай даражы». Маленькі чытач напаткае тут і «коцікаў-жоўтажывоцікаў», і «заплаканы дождждык», і месяц, які меў неасцярогу залезці ў студню. Дапытлівы чалавечак абавязкова пацікавіцца ў таты, як гэта раней звычайны вецер вытвараў розныя дзівосы і «дзьмухаў з цэлай сілы Вятракам у крылы, і малоў ён зёрны на смачны хлеб чорны». А пацікавіўшыся, даведаецца нешта новае для сябе, свет расхінецца перад ім яшчэ шырэй. Значыць, добрую справу зрабіў вершаваны радок, абудзіў дзіцячую душу.

І сапраўдным адкрыццём для мяне сталіся карацелькі-смяшынкі. Калі так бракуе гумару ў жыцці і дзеці ад дарослых хутчэй чуюць грубасць ці нават лаянку, жартоўнае слоўца проста неабходнае для дзетак. Прыемна, што палову кнігі В. Шведа склалі васьмірадкоўі менавіта падобнага кшталту:

*Настаўнік пытае:*
*- Скажыце мне, дзеці,*
*З чаго вырабляюць*
*Рыбацкія сеці?*

*Яму Вераніка*
*Адказвае шчыра:*
*- З вялікага ліку*
*Малюсенькіх дзірак.*

Варта асобна адзначыць арыгінальныя загалоўкі ў многіх вершах, якія сваім досціпам адразу прыцягваюць дзіцячую ўвагу: «Цэлы тыдзень мучыў злыдзень», «Збожжа ў падарожжы», «Смех у мех», «Бусел верны Беларусі», «Ад пчол ледзь-ледзь уцёк мядзведзь» ды інш.

Мушу сказаць і пра ўдалую кампазіцыйную будову кнігі, што дарэчы сказаць, мае каля 200 старонак. Вершы скампанаваны па тэматычных раздзелах і падраздзелах, што, безумоўна, спрыяе пры чытанні. Заслугоўвае ўдзячнае слова і таленавітае графічнае аздабленне кніжкі, зробленае мастаком Уладзіславам Петруком. А напрыканцы хочацца сказаць вось што: у суверэннай Беларускай краіне, якая мае тры сотні пісьменнікаў, мае магутнейшы паліграфічны камбінат, мае мо мільённую дзіцячую чытацкую аўдыторыю, цікавых і прыгожых кніжак кшталтам «Вясёлкі» Віктара Шведа не ха-па-е!

**МІХАСЬ СКОБЛА**, Менск

# Ахвяры II Сусветнай вайны ў вёсках: Стары Корнін, Ягаднікі і Карыціска

**Напісалі нам вучні восьмага класа Пачатковай школы ў Старым Корніне.**

*На ўроках гісторыі цяпер у нас вельмі цікавыя тэмы, пра II Сусветную вайну. Адгэтуль і ўзялося наша зацікаўленне лёсам жыхароў вёсак Стары Корнін, Ягаднікі і Карыціска ў гады 1939-45. Мы спачатку не ведалі, адкуль узяць даныя на тэму тых, якія загінулі падчас вайны. Наш настаўнік параіў нам, каб пахадзіць, папытаць людзей у вёсцы, мо ў чыёй сям'і хто-небудзь загінуў ці не вярнуўся дахаты. Мы так і зрабілі, узяўшы нешта для пісання, пачалі наведваць людзей, каб сабраць як найбольш інфармацыяў. Людзі не заўсёды ахвотна адказвалі, некаторыя нават зусім не хацелі слухаць. Але штосьці ўсё ж такі ўдалося нам запісаць, таму і вырашылі мы паслаць гэты ліст у «Ніву». Можа, знойдзе ён нейкі водгук.*

**Стары Корнін**

У гэтай вёсцы загінулі: Пётр Шпілько /42 гады/, Аляксей Данілюк /30 год/, Сямён Місяюк /38 год/. За вёскай былі забітыя Іван Ручай /18 год/ - 26 чэрвеня 1941 года і Андрэй Герасімюк /16 год/. У роднай вёсцы былі забітыя Ігнат Далінскі /59 год/ - 20 чэрвеня 1941 года, Пётр Баравік /49 год/ - 25 чэрвеня 1941 года. З лагераў не вярнуліся вывезеная ў 1941 годзе Марыя Патэйчук і Іван Баравік. У 1941 годзе немцы забілі Сцяпана Сурэля, Трафіма Якубовіча і Міхала Гаўрылюка. 19 ліпеня 1944 года ў сяле немцы забілі Пелагею Місяюк /80 год/. У 1944 годзе ў нямецкіх лагерах памёр Марко Навіцкі /45 год/.

**Карыціска**

У Чырвоную Армію ў 1941 годзе быў узяты Мікалай Томчук /народжаны ў 1919 г./, з яе і не вярнуўся. Кірыл Мінюк /58 год/ быў забіты немцамі за тое, што не хацеў аддаць ім коней. Іван Янчук яшчэ ў 1944 годзе быў у нямецкай няволі, адкуль не вярнуўся. Кірыл Місяюк таксама не вярнуўся з Нямеччыны - загінуў у 1945 годзе. Зміцер Янчук загінуў, разбіраючы снарад.

**Ягаднікі**

Як мы даведаліся, у 1943 годзе ў Белавежы былі павешаны Вольга Скжыпкоўская /26 год/ і Павел Абрамчук /20 год/. У Чырвонай Арміі ў 1942 годзе загінулі Пётр Назарук, Уладзімір Каўшыла /25 год/, Антон Гацута /29 год/. У 1945 годзе польскія банды забілі шмат жыхароў гэтае вёскі, між іншым: Нікіфара Назарука /30 год/, Івана Юшчука /25 год/, Івана Лаўрыновіча /21 год/.

*І гэта ўжо ўсё, што нам удалося сабраць, хаця, разумеем, гэтага крыху малавата. Аднак, і гэтага ўжо досыць, каб адлюстраваць, што і ў нашых вёсках здараліся трагічныя падзеі, якія марозяць кроў у венах.*

**Гэты ліст падпісалі вучні восьмага класа Пачатковай школы ў Старым Корніне: Івона Янчук, Андрэй Місяюк, Юрка Гаўрылюк, Андрэй Сурэль, Дарафей Яканюк.**



*Вучні 8 класа Пачатковай школы ў Старым Корніне са сваім настаўнікам беларускай мовы Васілём Сегенем.*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

**Астроне!**

Сніцца мне цёмны, пануры лес. Я ведаю, што я ў гэтым лесе і мне пагражае небяспека. Я ўцякаю. Беглася мне, праўда, лёгка. Я рабіў нейкія кругі. Небяспека нарастала. Вакол усё варожае. Тады я пачаў крычаць, але чамусьці па-французску. Што гэта за сон такі?

**Жоржык**

**Дзядзька Астрон!**

Мне 8 гадоў. Прыснілася мне, што я знаходжуся ў сваёй хаце. Я цяпер там не жыву, бо мама на нейкі час выехала, а тата цэлымі днямі працуе, дык мы з братам жывем у бабулі і дзядулі. І вось я быццам у бацькоўскай хаце. І ёсць бацька. Раптам прыходзіць злодзей з пісталетам і забірае ўсё-усенька з хаты — тэлевізар, мэблю, вопратку. А пасля гэтага злодзей ідзе разам са мною ў хату маёй бабы і дзеда. Адтуль таксама ўсё забірае. Я вельмі баюся.

**Адрыян**

Жоржык! Тое, што ты ўцякаў, можа прадвяшчаць табе небяспечнае падарожжа. Лес, які быў цёмны і пануры, пацвярджае маё меркаванне. Ёсць надзея, аднак, што скончыцца ўсё някепска, мо прыйдзе табе нейкая дапамога і будзе перамена на лепшае. За гэта гаворыць тое, што ты крычаў па-французску.

А цябе, Адрыянчык, не абмінуць нейкія клопаты. Аб гэтым сведчыць бацька ў тваім сне, а асабліва той злодзей. Злодзей заўсёды прадвяшчае небяспеку, страту ці наогул варожасць у адносінах да тваёй асобы. Можа, проста прынясеш двойку, чаго табе ў ніякім выпадку не жадаю.

**АСТРОН**

## ПАПРАЎКА

У надрукаванай вамі першай частцы майго артыкула „Першыя ластаўкі" Язэпа Рушчаньца („Ніва", н-р 11 (1870) ад 15 сакавіка г.г., с. 4) была дапушчана карэктарская памылка. Гаворка ідзе ў ім пра каталіцкую „Крыніцу" не ад 1912, але **1921** года! „Дробязь" тут такая, што ў 1912 г. „Крыніца" яшчэ не выходзіла. Першы нумар каталіцкай „Крыніцы" выйшаў толькі 8 (21) кастрычніка 1917 г. у сталіцы Расіі Петраградзе пад рэдакцыяй М. Грэчаніка (выдавец Л. Хвецько).

А ў другой частцы гэтае ж публікацыі („Ніва" н-р 13 (1872) ад 29 сакавіка г.г.) дапушчаны такія восем памылкі:

1) У першым радку на 4 старонцы павінна быць „*сувязяў*" а не „сувязаў", у першым жа на 5 старонцы — „*Адчуваў (...)*" замест надрукаванага „Адчуў (...)". Пасля смерці Рушчаньца 15 лютага 1958 г. „пахавалі" Вы яго ажно... 18 лістапада гэтага ж года, замест — *18 лютага 1958 г.* згодна з праўдай (той жа радок і тая ж 5 старонка).

2) Павінна быць хіба: „*У гісторыю беларускай літаратуры...*", а не „У гісторыі беларускай літаратуры..." (першы радок, пятая старонка).

3) У маім машынапісе было таксама: „*Магчымы прататып Костуся...*", а не „Магчыма прататып Костуся...", як было надрукавана ў другім радку на 5 старонцы.

**ЮРЫ ТРАЧУК**

*За гэтыя, як і іншыя дробныя памылкі рэдакцыя перапрашае шаноўнага аўтара і чытачоў.*




**З дакументаў Генеральнага штаба (II Аддзела), Варшава 1928.**

— 62 —

Наступны даклад аб эканамічным стане Беларусі прачытаў удзельнік з'езду Душэўскі. Калі выступілі ўсе прамоўцы, была прынята пратэстуючая рэзалюцыя.

„У момант, калі беларускі народ ляжыць, павалены і прыніжаны сваімі суседзямі, у часе, калі сам не можа дагадваць сваім багаццем, калі мільёны беларусаў яшчэ не вярнуліся з выгнання, у якім яны апынуліся ў часе вялікай еўрапейскай вайны — акупанты як з Усходу так і палякі хціва эксплуатуюць і грабяць беларускі народ, распрадаюць яго маёнткі і стараюцца з мэтай матэрыяльнага ўздыму сваіх метраполіяў параздаваць нескарысныя для беларусаў канцэсіі і на канец стараюцца каланізаваць часова кінутыя, а нават і някінутыя землі пры дапамозе сваіх салдат, прымушаючы беларусаў да эміграцыі.

Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя, лічачы сённяшніх гаспадароў Беларусі часовымі акупантамі, якія не маюць права да беларускай уласнасці, катэгарычна пратэстуе супраць знішчальна-рабункавай гаспадаркі і заяўляе, што:

1) продаж лясоў, грунтаў і іншых багацяў Беларусі суседзямі-акупантамі з'яўляецца грабежніцтвам, з якім беларускі народ будзе змагацца;

2) раздаванне акупантамі канцэсіяў на Беларусі з'яўляецца самавольяй, з якой беларускі народ не толькі не пагодзіцца, але будзе з ёю змагацца. Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя папярэджвае канцэсіянераў, што правоў на канцэсіі, выдадзеныя акупантамі, Беларусь ніколі не прызнае.

3) прымусовая каланізацыя польскімі жаўнерамі Віленшчыны, Гродзеншчыны праводзіцца без згоды беларускага народа і насуперак яго волі. Таму Беларусь у найбольш рашучай форме будзе змагацца з каланізацыяй і ніколі не прызнае каланістаў за сваіх грамадзян".

Канферэнцыя пастанавіла арганізаваць сталае эканамічнае бюро з сядзібай у Празе. У склад бюро ўвайшлі: Душэўскі, Дубейкоўскі, Жытлоўскі і Боеў.

У далейшым з'езд прыняў без дыскусіі рэзыгнацыю падрыхтаваную ў Камісіі, якая датычыла дзейнасці ген. Балаховіча і Савінкава. У справе генерала Балаховіча пастаноўлена: у сувязі з тым, што ген. Балаховіч не падтрымліваецца беларускім грамадствам, што ён не ачысціўся з пастаўленых яму закідаў адносна рабункаў і пагромаў, у сувязі з самавольным абвяшчэннем сябе начальнікам беларускага нацыянальнага руху, з'езд пастанавіў трактаваць названага як узурпатара і aферыста.

Таксама рашуча з'езд выказаўся супраць Савінкава, які пры дапамозе Польшчы ўзнімае паўстанне ва ўсходняй Беларусі, а ў заходняй вядзе русіфікатарскую дзейнасць.

Апрача гэтага прынята была адзінагалосна рэзалюцыя, апрацаваная Секцыяй дапамогі ахвярам вайны і голаду, якая была пратэстам супраць яўрэйскіх пагромаў.

*(Працяг будзе)*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ЗЯЗЮЛЯ

У славутай паэме Якуба Коласа «Сымон-музыка» ёсць такія радкі:

*Кукавала штось зязюлька,*

*Мо лічыла ім гады.*

*Ды якія? Хто згадае?*

*Варажыла, ды пра што?*

Паэт паўтарыў тут вядомае беларускае павер'е. Паводле яго, зязюля была аракулам, прарочыцай, якая можа перадаць людзям прароцтвы багоў. Падобнае ўяўленне пра гэтую птушку было і ў старажытных індзейцаў, германцаў, грэкаў. Апошнія верылі, што ў аблічча зязюлі мог з'явіцца сам Зеўс і паведаміць чалавеку пра яго далейшае жыццё.

Зычны, характэрны голас рабое птушкі быў знаёмы і старому, і малому. Прылёт зязюлі з выраю звычайна супадаў са з'яўленнем лістоты, калі выводзіліся вусені, якімі яна і харчуецца. І калі зязюля першы раз кукавала на зялёным дрэве, то лічылася, што год будзе ўраджайным, і наадварот... Падобную прыкмету звязвалі і з першым громам. І калі горм грымеў на «пусты» лес, то трэба было чакаць недароду.

Супадзенне прыкмет дае падставу лічыць зязюлю вястункай самога Перуна - галоўнага паганскага бога. (Пярун - беларускі адпаведнік грэчаскага Зеўса, якога Гамер называў Грамавержцам.)

Але пасля прыняцця нашымі продкамі хрысціянства культ Перуна паступова занепадае. Усё часцей, поруч з прарочай функцыяй зязюлі, імя гэтай птушкі пачало спалучацца з жалобай. Голас яе пачалі ўяўляць плачам. Гэта і адбілася ў загадцы: «За борам баранскім, за лесам лясанскім плакала каралеўна голасам панскім». У беларускіх народных песнях зязюльчына кукаванне прараўноўваецца з жальбою дзяўчыны, якую аддаюць замуж, з галашэннем маці, якая выпраўляе сына ў салдаты.

«Ой, некому знаці даці,
жаўнера хаваці.
Паляцела зязюленька
ў цёмны бор каваці...»

ЗДЗІСЛАЎ СІЦЬКО





Чаромха. Фота В. Жушмы.

# МОЙ САД

...Люблю мой сад,
як расцвітае,
Як салавей свой трэль вядзе.
Як цвет галінку прыгібае,
Як пчолка мёд адтуль нясе.
Люблю мой сад ў маёвым ранку,
Як тоне ён ў расістай мгле,
Як ліпа шэпчацца пры ганку
І як зязюлька «ку-ку» шле.
Люблю мой сад пад белым цветам,
Люблю, зялёным як стаіць;
Люблю, як грушы спеюць летам
І як работай ён кіпіць...

ЦЁТКА

# ЧАМУ ВОЛЕЧКА НЕ САРВАЛА КВЕТКІ

Раніцай першакласніца Волечка ішла ў школу. Каля дарогі яна ўбачыла кветку рамонка.

Ой, якая прыгожая! Волечка працягнула руку, каб сарваць кветку і занесці ў школу. Але раптам яна ўбачыла на пялёстачку кропельку расы. А ў кропельцы - сонца. І блакітнае неба, і зялёная ніва, і высокая таполя - усё ў кропельцы!

Заглядзелася Волечка на чароўную расінку і не сарвала кветкі.

ВАСІЛЬ СУХАМЛІНСКІ

# ЗАЯЦ РАЗАРВАНАЕ ВУХА

Аднойчы заяц Разарванае Вуха гуляў у лесе і каля вялікага разгалістага дрэва ўбачыў Мядзведзя з Ільвом. Зайцу вельмі захацелася даведацца, пра што яны гавораць. Ён падпоўз па густой траве бліжэй да іх і прыслухаўся.

-Ведаеш, валадар, як мне ўелася ў косці Ліса! Няма ад яе віякага ратунку. Гэта ж учора лавіў я рыбу на возеры, дык зладзейка ўкрала ўсю. Толькі адну маленькую рыбку на смех пакінула,- скардзіўся Мядзведзь Ільву. - Парай, як правучыць хітруху. І ад зайцоў спакою няма. Асабліва дакучае Разарванае Вуха. Скача, дражніцца: «Ага, ты не злавіш мяне, не зловіш!» Ну скажы, ці можна мірыцца з гэтым?

-Не бядуй, касалапы, нешта прыдумаем! - супакоіў Мядзведзя Леў.

«Вось яно што! Мядзведзь з Ільвом хочуць Лісу правучыць, потым за нас узяцца!- падумаў заяц.- Але яшчэ паглядзім, хто каго!»- і ён памчаўся да Лісы, каб папярэдзіць яе.

Ліса пасля смачнага абеду млела на сонейку. Убачыўшы Разарванае Вуха, здзівілася:

-Што здарылася, шарачок, чаму задыхаўся так, быццам нехта гнаўся за табою?

-Ніхто не гнаўся. Гэта я спяшаўся навіну табе перадаць.

-Кажы хутчэй, што за навіна!

-Мядзведзь з Ільвом збіраюцца правучыць цябе за тое, што рыбу крадзеш! І за нас, зайцоў, хочуць узяцца.

-Ой-ё-ёй!- захвалявалася Ліса.- Прапала я! Што ж рабіць? Зайка, дарагі, як нам ратавацца?

Сабралі яны лісіц і зайцоў ды пачалі раіцца, што рабіць.

-Я ведаю!- усклікнуў Разарванае Вуха.- Трэба пасварыць Мядзведзя з Ільвом. Памажыце толькі дастаць доўгую вяроўку.

Лісіцы з зайцамі спялі вяроўку, далі Разарванаму Вуху і ён пайшоў да Мядзведзя, які ў гэты час адпачываў каля сваёй хаты ў цяньку.

- О валадар, самы магутны з усіх звяроў!- ветліва сказаў Разарванае Вуха Мядзведзю.- Ці не зробіш ты ласку памагчы маленькаму і слабаму?

-Кажы, чаго хочаш, маленькі і слабы,- ганарыста прамовіў касалапы.

-Мая павозка загрузла ў балоце, і не магу выцягнуць яе. Можа, ты выцягнеш? А каб зручней было, дазволь прывязаць вяроўку да тваёй лапы.

-Добра, прывязвай,- крыху падумаўшы, згадзіўся Мядзведзь.

Разарванае Вуха прывязаў канец вяроўкі да пярэдняй лапы Мядзведзя і сказаў:

-Цяпер я пайду і прывяжу другі канец да павозкі. Калі дам сігнал, цягні з усяе сілы.

Заяц пабег да Ільва, спыніўся перад ім і з павагаю схіліў галаву. Ён і Льву расказаў гісторыю пра павозку і спытаў з надзеяй:

-Можа, ты паможаш маленькаму і слабаму - выратуеш яго павозку?

-А як яе ратаваць?- спытаў Леў.

-Дазволь прывязаць канец вяроўкі да тваёй лапы,- папрасіў заяц.- Варта табе тузануць адзін разок - і павозка выскачыць з балота.

Леў згадзіўся. А заяц пабег да

*Працяг на стар. 10*

**ВАЛЯНЦІН ЛУКША**

# КАЗКА ПРА ПЕЎНЯ

У вёсцы Чараўнік жыў-быў даўно.
Ён, кажуць, дзіва здзейсніў не адно.
Ды толькі быў бяссільны вось у чым:
Не знаў, як сына-гультая лячыць.
Той каля люстра скача ранкам кожным:
-Які прыгожы я!
Які прыгожы!..

Сын вопратку стракатую насіў,
Сын завіваў фарсіста валасы,
Каб быў на галаве яго віхор -
Усім заўзятым моднікам
Дакор!
Ды неяк занядужаў Чараўнік,
Засумаваў
І галавой панік.
-Паспагадай мне,
Сын.-
Ён папрасіў.-
Хутчэй вады мне кварту прынясі!..
І вызверыўся сын-гультай тады:
-Заняты я!
Пацерпіш без вады...
І зноў трасе пры люстры валасамі:
-Прыгожы я,
З усіх - прыгожы самы!

Тады ўсе сілы Чараўнік сабраў,
Устаў ён, хворы, з ложка
І сказаў:
-Дык будзь жа ты пракляты
На ўвесь век!
Стань птушкаю, нядобры чалавек,
Бо ўвесь твой клопат -
Лепшым быць у свеце...
Шукай жа сабе харч
У пыльным смецці!
Ты зможаш гаварыць па-чалавечы -
Вось і хвалі сябе
Сябрам пры стрэчы!..

Сказаў -
І сын пакрыўся пер'ем грубым,
На месцы носа выткнулася дзюба.
У люстра зірк -
На галаве ягонай
Зубчасты грэбень,
Як агонь, чырвоны.
І Пеўня Чараўнік аддаў суседу,
Каб не было ў двары яго ні следу.
Зірнуў сусед на гаваркога Пеўня -
І рад:
-Ты добры вартаўнік, напэўна?
Стракаты, будзеш ля гумна стаяць,
Маё багацце пільна вартаваць!..

Сакоча Певень маладым нясушкам,
Які ён прыгажун,
Які дасужы.
І хоць яны
Не разумеюць мовы,
Ды слухаюць,
Бо голас той - мядовы!
Прыйшоў сусед праз тыдзень да гумна,

Там пацяруха лётае адна -
Усё пасцягвалі
Звяры і птушкі.
Раздолле ветру павуцінне гушкаць.
А Певень спіць сабе...
Сусед крычыць:
-За гэта мала лайдака забіць!
Адно і ўмее - балбатаць прыгожа!
Няхай жа ён ніколі больш не зможа
На чалавечай мове гаварыць,
А будзе - кукарэкаць на зары!..

Тут Певень крылы стромкія падняў,-
Лоп-лоп,-
На ўсё ваколле заспяваў:
-Ку-ка-рэ-ку!..
Ку-ка-рэ-ку!..
Сябры,
Я
Першы прахапіўся на двары!..

І Чараўнік пакінуў Пеўня людзям,-
Няхай нагадваць на дасвецці будзе
Заўсёды ён, гарласты дабрадзей,
Што новы дзень
Прыходзіць да людзей!

# ЗАЯЦ РАЗАРВАНАЕ ВУХА

*Працяг са стар. 9*

сяброў. Забраліся яны на ўзгорак, і Разарванае Вуха затрубіў у рог.

І тут усе ўбачылі: Мядзведзь пачаў цягнуць у адзін бок, Леў - у другі. Вяроўка напялася, і ніводзін з іх не мог зрушыцца з месца.

-Ну і цяжкая зайцава павозка!- прабурчаў Мядзведзь. - Можна падумаць, што я вырываю дрэва з каранямі. - Ён прыціснуўся да тоўстага ствала і пацягнуў мацней. А Леў, адчуўшы гэта, падумаў: «Не інакш павозку праглынула багна!» і таксама пацягнуў вяроўку.

Кожны з іх упарта цягнуў у свой бок, а зайцы і лісы весела смяяліся,назіраючы, як тузаюцца Леў з Мядзведзем. Ды вось Мядзведзь некалькі разоў абматаў вяроўку вакол сябе, моцна рвануў і пацягнуў Ільва. Тады Леў абкруціўся вяроўкай, напяўся і пацягнуў Мядзведзя.

Урэшце Мядзведзь з Ільвом апынуліся зусім побач. Здзіўлена глядзелі яны адзін на аднаго, не верачы сваім вачам. Зразумеўшы, што папаліся на заечую хітрасць, яны так моцна рванулі вяроўку ў розныя бакі, што яна не вытрымала - разарвалася.

Хацелі правучыць Лісу і зайцоў, а выйшла наадварот.

З таго часу Мядзведзь з Ільвом ніколі не сустракаюцца.

А Ліса падзякавала Разарванаму Вуху за кемлівасць і падарыла яму кош морквы.

**АЛЕНА МІМРЫК**




# НАЗВЫ ГІСТАРЫЧНЫХ АБЛАСЦЕЙ БЕЛАРУСІ

Адзіная назва для нашай Беларусі з'явілася не адразу. На світанку дзяржаўнасці пераважалі назвы плямянных саюзаў - крывічы, дрыгавічы, радзімічы. Трохі пазней іх змянілі назвы буйных княстваў - Полацкага, Тураўскага, Смаленскага, кожнае з якіх займала частку пазнейшай тэрыторыі нашай краіны. Кожнае з такіх княстваў з цягам часу дзялілася на больш дробныя.

По дакументах XIV-XVII стагоддзяў, калі нашы продкі жылі ў складзе Вялікага княства Літоўскага, можна прасачыць, што розныя яго часткі было прынята называць па-рознаму. Паўночна-заходняя частка беларускіх зямель з гарадамі Менскам, Заслаўем, Наваградкам, Слонімам, Гародняй, Камянцом, Браславам называлася Літвой, і ўсходняя мяжа яе праходзіла па Бярэзіне (не блытаць з сучаснай Літвой, бо такую назву ў тыя часы мела толькі яе ўскраіна, уключаючы Вільню). На ўсход ад Бярэзіны размяшчалася Белая Русь (назва ўжывалася з XIII-XIV ст.), і найперш да яе быў аднесены Полацк, а потым меліся на ўвазе Дзісна, Віцебск, Орша, Мсціслаў, Магілёў, Барысаў. У падняпроўскім краі знаходзілася Панізоўе з гарадамі Крычаў, Чачэрск, Прапойск (цяперашні Слаўгарад), Рагачоў, Гомель, Рэчыца. Як і цяпер, вядома была назва Палессе - на землях з цэнтрамі ў Пінску і Мазыры. Акрамя таго, была і беларуская вобласць Падляшша з гарадамі Драгічынам, Бельскам, Мельнікам, Бранскам, Суражам. Бярэсце (Брэст) адны дакументы адносяць да Літвы, іншыя - да Падляшша. Трэба адзначыць, што гэта дзяленне на гістарычныя вобласці амаль не супадала з тагачасным адміністрацыйным падзелам.

Паступова з усіх гэтых назваў перамагла Белая Русь, якая ў злёгку зменёным выглядзе - Беларусь - стала ўжывацца для абазначэння ўсіх земляў, заселеных нашым народам. Упершыню, бадай, у такой якасці гэты тэрмін выкарыстаў Францішак Багушэвіч. А назва Літва перамясцілася далей на паўночны захад і стала абазначаць тэрыторыю пражывання аднаго з балцкіх народаў.

**ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ**





**А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А**

*Адшукай сем адрозненняў на малюнках.*

# ВЕРСІІ ✺ КУР'ЁЗЫ ✺ СЕНСАЦЫІ

## „КЛЕМЕНТЫНА": ДАСЯГНЕННЕ СТАГОДДЗЯ

**Пра тое, як ЦРУ* адшукала загінуўшую савецкую падводную лодку з ядзернай зброяй.**

У глухую трапічную ноч у канцы лютага 1968 года амерыканскі спутнік сфатаграфаваў яркі бліск на паверхні Ціхага акіяна ў некалькіх сотнях міляў ад вострава Гуам. Пасля аналізу дадзеных аб руху суднаў у гэтым раёне ЦРУ прыйшла да вываду, што там, мабыць, здарылася аварыя — узрыў на борце замежнай падводнай лодкі, якая якраз вынырнула на паверхню вады. Праз пару дзён гэтая гіпатэза стала пацвярджацца: у раёне катастрофы савецкія караблі пачалі пошукі. А перахват вестак па радыё паміж апазнавальнымі караблямі і самалётамі канчаткова пераканаў кіраўніцтва ЦРУ у тым, што ЗША сталі ўладальнікам сакрэта стратэгічнай важнасці: мелі дакладныя каардынаты месца загінуўшай падводнай лодкі. Была яна ўзброена, паводле амерыканскіх дадзеных, трыма ядзернымі былістычнымі ракетамі і ядзернымі тарпедамі.

Спачатку амерыканцы задумваліся, што зрабіць з сабранымі інфармацыямі. Было гэта якраз у гады так званай халоднай вайны. Таму і рызыкнулі патаемна выцягнуць субмарыну. Калі савецкія караблі пакінулі тое месца, дзе загінула лодка, сюды прыплыло амерыканскае „навукова-даследчае судна". Спецыяльныя падводныя тэлекамеры выявілі затануўшую лодку, якая знаходзілася на камяністым дне, на глыбіні каля 5 тысяч метраў. На выгляд здавалася, што лодка мала пацярпела ад пажару і ўдару аб дно. Вось завурчаць рухавікі і то-то паплыве. Была гэта, аднак, толькі ілюзія.

Неўзабаве ўбачылі глыбокаводнага краба, які выпаўз з прабоіны ў корпусе са здабычай — матроскім ботам, з якога тырчала людская косць...

Упэўніўшыся, што лодку ўсё-такі можна выцягнуць на паверхню нават з такой вялікай глыбіні, ЦРУ распачала падрыхтоўку да гэтай аперацыі, якая, як пасля выявілася, была адной з найдаражэйшых у гісторыі дзейнасці цэнтральнага кіраўніцтва. Паглынула паўмільярда долараў. З гэтай мэтай быў пабудаваны карабель-калос і падводная платформа. Спатрэбілася спецыяльна падрыхтаваная група людзей.

У адной з суднаверфяў каля Сан-Францыска пачалі пабудову вялікагабарытнага карабля для, як гэта было нявінна акрэслена, „эксперыментальнай дабычы карысных выкапняў", а таксама спецыяльнай платформы, здольнай падняць вялікі груз. Выбралі варыянт платформы з такім тэхнічным абсталяваннем, як, між іншым, дзве пары магутных гідраўлічных клешчаў. Назвалі яе „Клементынай". Разам са „здабычай" мела яна быць уцягнута ў сярэдзіну карабля-базы.

Адначасова праводзіліся вярбоўка ды падрыхтоўка будучага экіпажа. У першую чаргу прымалі былых матросаў, якія плавалі на падводных лодках. Спачатку ім паведамілі, што будуць працаваць на самым сучасным навукова-даследчым караблі. Аднак, ужо першыя заняткі, якія правялі спецыялісты амерыканскага ваенна-марскога флоту і ЦРУ з экіпажам, упэўнілі матросаў, што тут штосьці не так. Іх вучылі пра радыяцыю і радыеактыўнасць, а таксама чым пагражаюць радыеактыўныя матэрыялы. Падчас наступных „урокаў" пазнаёмілі з дызелеўскімі рухавікамі ў падводных лодках. Але ўжо невядома чаму да заняткаў дадалі кароткі курс рускай мовы. На заканчэнне падрыхтоўкі юрыст пазнаёміў матросаў, якія правы прыслугоўваюць салдатам, што трапілі ў палон згодна з пастановамі Жэнеўскай канвенцыі. Гэты даклад яшчэ больш занепакоіў увесь экіпаж.

Перад адпраўкай „Гломар эксплорэр" (так назвалі новапабудаванае судна) арганізатары аперацыі вырашылі супакоіць матросаў. Сказалі, што з дна Ціхага акіяна неабходна забраць савецкую ракетную падводную лодку. Зрабіць гэта трэба ў вялікай таямніцы. Іначай ваенныя караблі СССР пастараюцца ўзяць „Гломар эксплорэр" на абардаж і ўвесь экіпаж у палон. Наколькі гэтая вестка супакоіла матросаў, невядома. Аднак, абяцанне вялікіх ганарараў зрабіла сваю справу.

Марскі шпіён выплыў у адкрытае мора з порта ў Сан-Францыска і распачаў пошукі загінуўшай лодкі. Да выканання асаблівай місіі прыступілі ў маі 1974 года. Пасля пробных апушчэнняў „Клементыны" на марское дно, вырашана падацца на месца аперацыі. Схапіць клешчамі затануўшую лодку ўдалося за першым разам. Пачалі выцягваць і тут, як на бяду, лопнуў корпус падводнага судна. На борт „Гломар эксплолэр" трапіла ўсяго адна чацвёртая яго частка. Астатак зноўку патануў. Пры ўсім гэтым амаль не дайшло да бяды. З пераламанага цела калоса выслізнулася адна з ракет...

Калі „Гломар" даплыў да берагоў ЗША, адразу распачалі даследаваць „здабычу". Аказалася, што сталь, з якой пабудавалі корпус лодкі, была нізкагатунковая. Нават яе таўшчыня не ва ўсіх месцах была аднолькавая. Усё абсталяванне і разнароднае тэхнічнае аснашчэнне былі зблытаныя і раскіданыя, быццам рукой нейкага волата. Аднак, амерыканскім спецыялістам удалося выкрусціць з тарпедаў ядзерныя дзяржальны. Ці ЦРУ пранікнула таксама ў кабіну шыфравальшчыка — невядома...

Дасталі таксама астанкі васьмі членаў экіпажа. Труны з астанкамі былі спушчаны на дно акіяна пад гукі дзяржаўнага гімна СССР. Амерыканцы прытрымліваюцца марскіх звычаяў.

„Гломар" меўся яшчэ плысці на другую частку лодкі. Але перашкодзілі прэсавыя інфармацыі, што ЦРУ выцягнула з акіяна савецкую таямнічую лодку. У выніку гэтых чутак Сенат ЗША не даў грошай на такога роду „самавольную" шпіёнскую дзейнасць ЦРУ. Канчаткова „Гломар" прадалі суполцы, якая фактычна займаецца эксплуатацыяй прыродных багаццяў з марскога дна. Неўзабаве ўсе забылі пра таямнічую „Клементыну".

**Апрацавала**
**А. ПРАЛЕСКА**

**ЦРУ–Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне ЗША ( Central Inteligence Agency ).*

# ГІТ-ПАРАД „ПАД ЗНАКАМ ПАГОНІ"

Пачынаючы з 25 мая ў радыёпраграме „Пад знакам пагоні", у кожны панядзелак уваходзіць новая маладзёжная перадача „Гіт-парад у прagrame „Пад знакам пагоні". Вы можаце паслухаць і выбраць найбольш папулярныя песні і гурты з Беларусі і Беласточчыны. Першыя дваццаць песень прапануюць журналісты беларускай праграмы супольна з рэдакцыямі „Нівы" і „Часопіса". 10 песень вы пачуеце ў музычнай форме, наступныя 10 будуць чакаць у чарзе і будзе можна паслухаць пра іх у інфармацыях. У кожным новым „Гіт-парадзе" на месца 5 апошніх увойдуць 5 найлепшых з „пачакальні". Актуальны „Гіт-парад" будзе друкавацца ў кожнай „Ніве". Заахвочваем усіх чытачоў да супольнай забавы. Вось нашыя прапановы:

1. **Уліс** — Пляц Францыска
2. **Мясцовы час** — Спіць краіна белая
3. **Грамада** — Кухарка
4. **Мроя** — Рок-музыкант
5. **Уліс** — Краіна доўгай белай хмары
6. **Рокіс** — Ноч святла
7. **Рэй** — Панарама трыццаць
8. **Кадэцкі корпус** — Апошні бой Врублеўскага
9. **Альбаросіка** — Дробна пташачка
10. **Грамада** — У садзе гуляла

11. **Данчык** — На вуліцы мокра
12. **Муха** — Муха
13. **Тутэйшыя хлопцы** — У музеі
14. **Рэй** — Лебядзіны крык
15. **Мроя** — Ён яшчэ вернецца
16. **Новае неба** — Чарга
17. **Ананім** — Васілёчкі
18. **Дубіны** — Ціхі вечар
19. **Альбаросіка** — Пад зялёным дубам
20. **Бонда** — На станцыі Койданава

Тэлефануйце ў Беластоцкае радыё ў кожную пятніцу ад гадз. 8 да 16 па тэл. 26272




## БЛІНЧЫКІ

### З яйкамі

Цеста: 200 г мукі, шклянка малака, шклянка вады, 2 яйкі, 20 г саланіны, соль па смаку.

Фарш: 4 крутыя яйкі, чэрствая булка, 2/3 шклянкі малака, 80 г жоўтага цвёрдага сыру, 1—2 цыбуліны, 1,5 лыжкі тлушчу, зеляніна пятрушкі, соль і перац па смаку, тлушч.

Яйкі памыць, уліць у міксер, дадаць малако, ваду і соль, міксаваць 30—40 секунд, або проста збіць усё гэта венічкам. Тады ўсыпаць прасеяную муку, увесь час мяшаючы венічкам, каб не было грудак, а на паверхні цеста паказаліся пузыркі-паветра. Развесці цеста вадой да такой гушчыні, каб яно лёгка разлівалася на патэльні. Смажыць бліны. Абабраць цыбулю, нарэзаць яе дробна і падсмажыць. Булку намачыць у малацэ з вадою, выціснуць, змалоць з крутымі яйкамі, спалучыць з цыбуляй, сцертым на тарцы сырам і пасечанай зелянінай пятрушкі, заправіць соллю. Класці фарш на блінчыкі, загортваць іх канвертам, смажыць на невялікім агні з абодвух бакоў. Падаваць з кечапам і салатай.

### З яблыкамі

Цеста — як раней.

Фарш: паўкілаграма яблыкаў, 5 лыжак цукровай пудры да яблыкаў, 2 жаўткі, 100 г міндаля, 5 лыжак цукровай пудры для пасыпання, тлушч.

Міндаль абліваем кіпетнем (найлепш узяць міндальныя стружкі, тады не трэба будзе абіраць яго і церці на тарцы). Яблыкі памыць, сцерці на бурачанай тарцы і падсмажыць з цукрам. Крыху астудзіць, а тады перамяшаць з жаўткамі і міндалем. Далей рабіць блінчыкі, як у папярэднім рэцэпце.

### З пячонкай

Цеста — як у першым рэцэпце.

Фарш: 500 г курынай, свіной ці цялячай пячонкі, 2—3 цыбуліны, 2 крутыя яйкі, 2 лыжкі тлушчу, 3 лыжкі смятаны, соль, перац і тлушч.

Пячонку спаласнуць, намачыць у малацэ, зняць плёнку, нарэзаць на кавалкі, падсмажыць. Цыбулю абабраць, спаласнуць, дробна нарэзаць, дадаць да пячонкі і разам падсмажыць. Тады астудзіць, прапусціць праз мясарубку з яйкамі, перамяшаць са смятанай, пасаліць. Далей загортваць блінчыкі.

### З пячурыцамі

Цеста — па-ранейшаму.

Фарш: 500 г пячурыц, 2—3 цыбуліны, 3 лыжкі смятаны, жаўток, 4 лыжкі сцертай на тарцы сухой булкі, 2 лыжкі тлушчу, зялёная пятрушка, соль, перац і тлушч.

Пячурыцы і цыбулю ачысціць, памыць, нарэзаць. Цыбулю падсмажыць, спалучыць з пячурыцамі, смажыць разам. У канцы уліць смятану. Тады дадаць жаўток, сцертую булку і пятрушку, пасаліць.

**ГАСПАДЫНЯ**

**ІМПАРТГУМАР**

Афіцыянт: — Ваша кава, сэр, спецыяльна з Паўднёвай Амерыкі.

Наведвальнік: Ах вось, аказваецца, дзе вы былі!

***

Блізкаўсходні шэйх, які рабіў паездку па Еўропе, адправіўся на балетнае прадстаўленне. Паглядзеўшы спектакль, ён спытаў дырэктара тэатра:

— Скажыце, калі ласка, а хто муж гэтага балета?

***

Наймальнік кватэры аглядае мансарду і гаворыць:

— Скажыце шчыра, дах, напэўна, цячэ?

— Толькі ў час дажджу , — адказвае гаспадар.

***

На канцэрце.

— Пазнаеш? Бетховен!

— Хм, не ўпэўнена. Пачакаем, пакуль ён павернецца тварам да публікі.

***

— Учора на мяне напаў бандыт, але я нават не заявіў у паліцыю.

— Чаму?

— Ён абшукаў усе мае кішэні, уздыхнуў і даў мне долар.

***

На станцыі пасажыр выходзіць з вагона і накіроўваецца ў буфет падсілкавацца. Перад тым, як выйсці, ён глядзіць на нумар свайго вагона, каб потым хутка яго знайсці.

— 1492. Цудоўна, — гаворыць ён, — такі нумар проста запомніць. Гэта год адкрыцця Амерыкі.

Праз некалькі хвілін пасажыр вяртаецца і ветліва пытае ў служачага чыгункі:

— Прабачце, мсье, ці не ведаеце вы, калі была адкрыта Амерыка?

***

Мэр горада часта блытаў свае грошы з чужымі і запускаў руку ў муніцыпальную касу. Нечаканая рэвізія выявіла недахоп у шаснаццаць тысяч долараў. На пытанне рэвізора, што ён можа сказаць у сваё апраўданне, мэр адказаў:

— Ну што я скажу... Вельмі, ведаеце, цяжка з гэтымі грашыма.... Яны так падобны...

***

— Значыць, пан прафесар, вы нічым не маглі дапамагчы свайму калегу, што трапіў у рукі канібалаў?

— На жаль, нічым. Калі мы дабраліся да іх вёскі, яго ўжо выкрэслілі з меню.

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**

**ПОШТА «НІЎКІ»**

**А. Здрок /ЗША/**: Гэтая прыкрая памылка здарылася з-за карэктарскага недагляду. Просім прабачэння! Нашых чытачоў інфармуем, што ў творы «Размова на часе» /н-р 11 ад 15 сакавіка 1992 г./ замест слоў *месца, месцы* павінна быць надрукавана **места, месты.**

**Уладзімір Клімюк /Плянта/**: Крыжаванак і загадак на рускай мове не друкуем. Паспрабуйце складаць беларускія крыжаванкі.

# НІЎКА

*— Я праходзіў побач і падумаў сабе: зайду і даведаюся, ці вы , рэдактар, прачыталі мой верш...*

## ПРЫПЕЎКІ

*Прапануем чытачам прыпеўкі з «Вожыка». Даслаў іх Іван Шпак з вёскі Куршынавічы Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, які напісаў: «Я вясковец і хачу запэўніць чытачоў »Вожыка", што «дзярэўня», вёска, народ гэтых прыпевак не пісалі. Яны напісаны вернымі падданымі тых, хто вёў нас у светлае сёння. Кажуць, з гісторыяй трэба развітацца смеючыся. Што ж! Давайце пасмяёмся разам"*

Мы цяпер усе жывём
Шчасліва, упэўнена.
Мы жыццё сваё вядзём
Па завету Леніна.

***

Куплю Леніна партрэт,
Залатую рамачку,
Вывеў ён мяне на свет,
Цёмную сяляначку.

***

Жаль, што Леніну няможна
Паглядзець, як мы жывём,
Як з яго навукай вернай
К жыццю новаму ідзём.

***

Канстытуцыю чытала,
Лепшай радасці не знала.
Гэта ж Сталін - бацька наш -
Так клапоціцца аб нас.

***

Калі ворагі на нас
З боем наступалі,
На пазіцы пайшоў
Сам таварыш Сталін.

**

А за вёскай, вёскай новай,
Сонца ўсходзіць яснае.
Дзякуй Сталіну радному
За жыццё калгаснае.

/працяг будзе/

## СУСЕД

Разгулялася нам дэмакратыя! Я ўсёй сваёй існасцю лавіў цудоўныя подыхі новай рэчаіснасці. Нарэшце ва ўласным доме! Не чакай, а спяшы, калі хочаш, дык брашы! Выбары! І яшчэ адны! І яшчэ! Чаго ж сабе шкадаваць! Сусветныя цэны! Сусветнае жыццё! Бананы на кожным прылаўку!

Радасць муціў мне толькі сусед. Той з верху. Стаў ён гаманіць. З яго кватэры пастаянна даносіўся нейкі стукат. Сусед нешта пілаваў, свідраваў, прыбіваў... Днём і ноччу. Неяк вытрымліваў я. Ну, што ж, гаварыў я сабе, плюралізм, свабода, сусед таксама жыве ва ўласным доме. Яго права.

А ў краіне кожны дзень станавілася цікавей і весялей! З'явіліся розныя партыі, вялікія і кішэнныя, толькі выбірай! Новы Сейм, новы Сенат, новыя старыя твары! За мяжой - адны змены! Канец Савета эканамічнай узаемадапамогі! Канец Варшаўскага дагавора! Канец Савецкага Саюза!

А сусед стукацеў.

Закружылася мне ў галаве. Аборт, прыватызацыя, акцыі, аблігацыі, біржы, відэафільмы, беспрацоўе, парнаграфія, казіно! «Дынастыя» замест «Чатырох танкістаў»! Амерыканская касметыка!

А сусед стукацеў. Зусім з дому не выходзіў. Расхвалявала мяне гэта. Як можна сядзець у чатырох сценах, калі мы даганяем Еўропу, ваюем з наменклатурай, ствараем акцыянерныя таварыствы? Як можна быць так абыякавым да цудоўнасцей нашага часу? Ці ж панель важнейшая ўсяго?

Выслаў я жонку з дыпламатычнай місіяй. Хай высветліць справу.

Вярнулася праз пятнаццаць мінут.

- Ну і што? - спытаў я. - Што ён там робіць?

- Будуе, - прашаптала жонка.

- Што?

- Каўчэг...

**МАЦЕЙ ВІСЛІЦКІ**
/"Карузеля"/

## РАЗЕТКА НА «В»

**Управа:** 1/ будынак для пасажыраў, 2/ на поўдзень ад Палесся, 3/ Нарач, 4/ разбурае помнікі культуры, 5/ мае крылы і меле, але не лётае, 6/ узаранае поле, 7/ «беларускі» горад у Літве, 8/ адзін з варыянтаў тлумачэння падзей. **Улева:** 1/ чорная і каркае, 2/ гатоўнасць драцца або службовае запрашэнне, 3/ гара з кратарам, 4/ зняволены /з дрэвам у пачатку/, 5/ паэтычная зорка, 6/ узор на шыбе, 7/ страшэнны балаган з крыкам, 8/ мяккі серабрыста-белы метал.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды. **Адказ на разетку з 15 н-ра. Управа:** кабура, расказ, агарод, слімак, арбітр, вятрак, іголка, кароль. **Улева:** картка, рубель, абсурд, спадар, абібок, вобраз, істота, клопат.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Барбара Гура з Любліна і Лукаш Пацэвіч з Беластока.

Ніва

**„Niwa", ul. Suraska 1, 15—950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210—33**
**Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.**

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Мірослава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał upływa 20 maja 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044—1195—139—11.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie rownież prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.